ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

31 студзеня 1997 г. № 5 (3881) Кошт 3 000 руб.





*Дзе лета залатыя міражы?*
*Яны дасюль нам*
*мірсяцца і сняцца.*

*І так бывае халодна душы,*
*Што першых ручаін*
*не дачакацца...*

Фота Аляксея МАЦЮША

**Сем гадоў таму, 26 студзеня 1990 года, беларуская мова ўпершыню ў сваёй гісторыі была прызнана дзяржаўнай. Тады яшчэ не было дзяржавы Беларусь (была БССР), яшчэ мала было надзеі, што стане Беларусь незалежнай, яшчэ моцнай была кампартыя... Сёння дзяржава Беларусь ёсць. І, нібыта, мова беларуская застаецца дзяржаўнай (хоць цяпер ужо нароўні з рускай). Нібыта... Бо той Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы, які ніхто не адмяняў і ў якім на дзесяць гадоў наперад былі распісаны мерапрыемствы па ператварэнні беларускай мовы ў сапраўды дзяржаўную, — забыты. Больш таго, такога размаху русіфікацыі, як сёння, зямля беларуская не ведала, пэўна, з часоў уваходжання ў склад царскай Расіі. Раней кампартыя, як пісаў Вядзьмак-Лысагорскі, хоць зрэдку асаджала пугаўём русіфікатараў. Сённяшнія ж "дабрахоты" нібыта спаборнічаюць адзін з другім, хто з іх мацней убрыкне "бэнээфаўскую", "пазнякоўскую" — родную! — мову...**

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

27 студзеня па запрашэнні беларускага боку ў Мінск прыбыла міжнародная камісія, у склад якой увайшлі прадстаўнікі АБСЕ, ЕС і Савета Еўропы. Мэта візіту — азнаямленне з палітычнай і прававой сітуацыяй, што склалася на Беларусі пасля рэферэндуму. У першыя ж дні члены камісіі сустрэліся з прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэнкам, а таксама з прадстаўнікамі беларускай апазіцыі. Ад таго, якія высновы па выніках візіту зробіць камісія, залежыць будучыня Беларусі ў Еўропе і ў свеце, магчымасць кантактаў, супрацоўніцтва, а таксама ўваходжання нашай краіны ва ўплывовыя міжнародныя арганізацыі. Як і прынята ў такіх выпадках, у час візіту члены дэлегацыі сваімі "ўражаннямі" не дзеляцца. "Прысуд" будзе зроблены потым.

## АДТЭРМІНОЎКА ТЫДНЯ

Прызначаная на 29 студзеня "юбілейная" сустрэча лідэраў дзяржаў СНД зноў перанесена. На гэты раз — проста на сакавік, без вызначэння канкрэтнай даты. Прычына адтэрміноўкі — найперш хвароба прэзідэнта Расіі Б. Ельцына. Але не толькі. Усё больш кіраўнікоў незалежных дзяржаў перспектыву бачаць не ў пераходна-штучнай СНД, а ў наладжванні больш цесных двух-трохбаковых адносін...

## НАМЕР ТЫДНЯ

У святле даўніх і нядаўніх падзей інфармацыя, што амаль непрыкметна прайшла па беларускіх СМІ, падаецца ні больш, ні менш сенсацыйнай: у бліжэйшым часе адбудзецца сустрэча прэзідэнтаў Польшчы, Украіны і... Беларусі. Такім чынам дэклараваная "шматвектарнасць" беларускай знешняй палітыкі на справе ёсць не што іншае, як "наш адказ на вашыя ультыматумы". Украіна і Польшча, пэўна ж, хочуць скарыстаць момант, каб "вярнуць Беларусь у Еўропу", Беларусь жа цешыцца надзеяй самой ставіць умовы Расіі, карыстаючыся найвыгоднейшым геаграфічным становішчам.

## АДКАЗ ТЫДНЯ

На мінулым тыдні, хай і ўскосна, але прэзідэнт Беларусі, нарэшце, даў адказ на "пасланне" прэзідэнта Расіі Б. Ельцына. У інтэрв'ю "Інтэрфаксу" А. Лукашэнка назваў тры ўмовы, якіх ён будзе строга прытрымлівацца ў адносінах з Расіяй. Першая, непахісны дзяржаўны суверэнітэт Беларусі ("Беларусь не можа ўвайсці ў склад той ці іншай дзяржавы на правах раёна ці губерні"), другая: у "гарачых кропках" беларускія хлопцы служыць не павінны, і трэцяя: збліжэнне на аснове раўнапраўнага супрацоўніцтва. Думаецца, што пад такімі ўмовамі "далейшай інтэграцыі" мог бы падпісацца любы апазіцыянер... Словы сказаны, дасць Бог, яны не разыдуцца са справай, незалежна ад таго, як будуць развівацца падзеі ў Расіі...

## САЛІДАРНАСЦЬ ТЫДНЯ

"Рэпетыцыя" "Мінскай вясны-97" адбылася ў мінулую суботу ў сталіцы Беларусі. У шэсці і мітынгу ў абарону незалежнасці Беларусі і ў падтрымку выступленняў апазіцыі ў Сербіі і Балгарыі прыняло ўдзел каля пяці тысяч чалавек. Мітынг арганізаваў Беларускі народны фронт, які яшчэ раз даказаў, што, у адрозненне ад іншых партый і рухаў, карыстаецца надзвычай стабільнай падтрымкай у грамадстве, асабліва сярод моладзі.

## РЭЗАНАНС ТЫДНЯ

Не сціхаюць страсці вакол Камароўкі. Паводле новых "правілаў гандлю на Камароўскім рынку", з 1 лютага прыватныя прадпрымальнікі не вытворцы прадукцыі гандляваць тут не будуць мець права. Такім чынам, больш за 10 тысяч цяперашніх гандляроў будуць "звольнены з працы". Спробы прадпрымальнікаў знайсці абарону ў вышэйшых уладах выніку не далі. Засталося адно: мітынг пратэсту, які запланаваны на 10 лютага.

## НЕЧАКАНАСЦЬ ТЫДНЯ

Абмінуць гэтую падзею — ніяк не выпадае. Была яна зусім нечаканаю і непрадказальнаю. Здавалася б, Уладзімір Бельскі трывала ўпісаўся ў нядаўна надрукаваны новы склад Кабінета Міністраў на пасадзе старшыні Дзяржкамдруку, і раптам — указ прэзідэнта аб яго адстаўцы. Яшчэ больш нечаканым і дзіўным было прызначэнне-перастаноўка Уладзіміра Замяталіна з пасады намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта на кіраванне прэсай... Як і прынята апошнім часам, ніякіх тлумачэнняў наконт прычын адстаўкі У. Бельскага — не дадзена. Адносна ж прызначэння У. Замяталіна прэзідэнт сказаў, паведамляе "Свабода", што выкліканае яно неабходнасцю "навядзення парадку ў выдавецкай галіне".

## ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

А вось гэтае прызначэнне, якраз у святле апошніх падзей, выглядае заканамерным: кіраўнік КПБ, галоўны рэдактар газеты "Мы и время" Віктар Чыкін прызначаны намеснікам старшыні Мінскага гарвыканкама па пытаннях ідэалогіі. Калі прыгадаць іншыя нядаўнія "падобныя" прызначэнні, то можна зрабіць беспамылковую выснову, што з вызначэннем "дзяржаўнай ідэалогіі" сёння ў нас праблем няма: "сякера пад лаўкай", нарэшце, знойдзена.

ПРОЗА

# АКНО Ў ВЯЛІКІ СВЕТ

***У першым нумары часопіса "Всемирная литература" надрукаваны: вершы Р. Тагора і Н. Хікмета, фантастычны раман Урсулы Ле Гуін, апавяданні І. Пташнікава, А. Конан-Дойла, Ж. Морыца, раздзелы з кніг К. Льюіса і Э. Межэлайціса.***

Святам культурнага жыцця назвалі выхад новага часопіса ўдзельнікі яго прэзентацыі ў Доме друку. Мы даведаліся, што ідэя такога выдання спела доўга, і толькі актыўнае далучэнне "Мастацкай літаратуры" дало практычны імпульс для ўвасаблення гэтай ідэі.

Рэй вялі, натуральна, дырэктар выдавецтва Г. Марчук і галоўны рэдактар часопіса Т. Бондар. Першы ва ўласцівай яму экспрэсіўнай манеры расказаў свой сон пра бедуінаў, а напрыканцы заклікаў сумесна берагчы душу чалавечую. Бо хоць свет вялікі і разнастайны, але агульнага ў нас болей, чым адрознага.

Т. Бондар выказала надзею, што новым пакаленні будуць выхоўвацца не толькі на масавай культуры, і па чарзе прадставіла слова саветнікам па культуры пасольстваў Расіі, Украіны, Эстоніі, Францыі. Дыпламаты з прыемнасцю ўспрынялі імёны "сваіх" пісьменнікаў у грамадскім савеце часопіса — Ю. Мушкецька, Ю. Тууліка і іншых — і перадалі ад іх прывітанне. Не выключана, што ў суседніх краінах гэтае рускамоўнае выданне можа стаць падпісным. Прысутны тут Найдзен Вылчаў ад слова сціпла адмовіўся, але паабяцаў садзейнічаць.

За З. Прыгодзіча, афіцыйнага прадстаўніка Камітэта па друку (яго перабілі і папрасілі гаварыць парyску — "для гасцей"), пакрыўдзіўся, здаецца, толькі супрацоўнік МЗС Эстоніі Пауль Летэнс. У прыватнай гаворцы ён выказаў пажаданне, каб кожны нумар "Всемирной литературы" адкрываўся вершам на беларускай мове, магчыма, і на лаціцы.

Ад пісьменніцкай суполкі выступіў Васіль Зуёнак, ад старэйшага часопіса "Нёман" — Алесь Жук. Старшыня нашага саюза параўнаў новае выданне з акном: праз яго мы з хаты глядзім на вуліцу, а з вуліцы — у хату.

Вельмі трапнае параўнанне, заўважым ад сябе. Толькі пры такой умове — калі праз гэтае акно свет будзе бачыць і нас, беларусаў, калі часопіс будзе служыць не толькі абстрактнай ідэі сусветнага духоўнага яднання — і апраўдае сябе выхад "Всемирной литературы". Калі гэта жыццядзольны нованароджаны, то патэнцыі росту і развіцця знаходзяцца ў ім самі, а канцэпцыя — кірунак развіцця — будзе ўдакладнены.

**НАШ КАР.**

ІМПРЭЗЫ

# ДА "ГРЭМІ" ДАЛЁКА, І ЎСЁ Ж...

***Часта здаецца, што ўсе цікавыя падзеі ў свеце папулярнай музыкі адбываюцца толькі на Захадзе, у лепшым выпадку — у Расіі. І мы звычайна з цікавасцю сочым за тым, якія артысты ў далёкай Амерыцы ці Англіі прызнаюцца лепшымі па выніках года. І хоць да "Грэмі" нашай беларускай "Рок-каранацыі" далёка, цырымонія ўзнагароджвання лепшых рок-музыкантаў Беларусі, якая прайшла на мінулым тыдні ў сталічным кінатэатры "Кастрычнік", выклікала цікавасць аматараў музыкі. І так яно і павінна быць — бо гэта наша, роднае. Пры пэўных хібах "Рок-каранацыі" можна сказаць, што яна набліжае нас да цывілізацыі і сцвярджае, што рок-музыка на Беларусі ёсць.***

Сёлетняя "каранацыя" была трэцяй, і ў нас з'явіліся новыя, трэція, "рок-каралі". Гэта — група "Ляпис Трубецкой". Адным шляхам ідзе краіна і рок-музыка. Першая рок-каранацыя была чыста беларускамоўным мерапрыемствам, і ўсе лепшыя групы на той час спявалі на роднай мове, і першыя "рок-каралі" 94-га года — група "Крама". Наступны, 95-ы, прынёс перамогу маладзёжнай, але досыць прафесійнай англамоўнай рок-групе "Рабл зон". І вось 96-ы — поўная перамога рускамоўнага "Ляписа", які відавочна "фліртуе" з папсой. Група існуе даўно, але менавіта мінулы год прынёс ёй найбольшую вядомасць, камерцыйны поспех і нават выхад на расійскага слухача.

Вызначэнне лепшых адбывалася па выніках анкетавання музычных журналістаў і прадзюсераў, і кола намінантаў на розныя ўзнагароды было досыць вялікае. І гэта пры тым, што ў нас няма ні вялікіх рок-канцэртаў, ні рок-фестываляў. Нягледзячы на магчымасць выбару, лепшым альбомам стаў ізноў альбом групы "Ляпис Трубецкой" "Ранетое сердце". І лепшымі тэкстамі, як гэта ні смешна, былі прызнаны тэксты групы "Ляпис Трубецкой". Гэтую ж узнагароду атрымала і група "Новае неба", якая заўсёды была найбольш інтэлектуальнай і паэтычнай групай. Прыз за лепшы дэбют атрымаў наваполацкі калектыў "Стокс", а вось фантазіі для вызначэння лепшых у намінацыі "Традыцыі і сучаснасць" яўна акказалася малавата, і трэці год запар гэты прыз далі "Палацу". Застаецца толькі пажадаць "Палацу", каб колькасць узнагародаў "Традыцыя і сучаснасць" хутка перайшла ў якасць звання "Рок-каралёў".

Цікавая гісторыя атрымалася з вызначэннем лепшай рок-песні 96-га года. Выбар з трох намінантаў мусілі зрабіць гледачы ў зале — сваімі апладысментамі і крыкамі. Былі выстаўлены песні Аляксея Шадзько "Мая Марусечка", "Ау-Ау" групы "Ляпис Трубецкой" і амаль нікому не вядомая апрацоўка беларускай калядней песні групы "НРМ". Музыкі "НРМ" не пагадзіліся з такім выбарам і праспявалі таксама абсалютна новую песню "Партызаны". Публіка без ваганняў выбрала "Партызанаў", магчыма, таму, што трохі жорсткая музыка "НРМ" была подыхам свежага рокавага паветра пасля "салодкіх" песень "Ляписа".

Два спецыяльныя прызы "За вялікі ўклад у развіццё беларускага рок-н-рола" атрымалі Іван Маркаў ("Літл блюз бэнд") і браты Аляксей ды Андрэй Казлоўскія, якія нядаўна аб'ядналіся ў групу "Бразэрс ін блюз".

Сёлета "Рок-каранацыя" пачала набываць рысы афіцыйнасці: у спісе тых, хто яе падтрымліваў, і Дзяржаўны камітэт па справах моладзі. Больш афіцыйна ў параўнанні з залай Альтэрнатыўнага тэатра, дзе пачала сваю гісторыю "Рок-карона Беларусі", выглядала і вялікая канцэртная зала кінатэатра "Кастрычнік". Праўда, склалася ўражанне, што афіцыйнасць і "вялікасць" не пайшлі на карысць. Да ўсяго, сам канцэрт "Рок-каранацыі" многа страціў з-за недасканалага гуку і "знаходак" у рэжысуры. Напрыклад, калі ў фінале нарэшце было абвешчана імя новых "рок-каралёў Беларусі" — "Ляписа", — то спявалі не яны, а Аляксей Казлоўскі і група "Палац". Іхняя песня была апошняй на "Рок-каранацыі-96". І гэта была англамоўная песня канадскіх індзейцаў. Можа быць, яна паказвала далейшы шлях беларускай рок-музыкі?

Напрыканцы — шчырыя віншаванні ўсім пераможцам!

**Надзея КУДРЭЙКА**

ПОШТА

# ПРЫКРА...

Прачытаў у нашай прэсе інтэрв'ю, якое даў карэспандэнту БЕЛТА міністр Расійскай Федэрацыі па супрацоўніцтве з дзяржавамі-ўдзельніцамі СНД Аман Тулееў. Гутарка змешчана пад гучнай назвай: "Паасобку ці разам?", а пад ёй — інтрыгуючы падзагаловак: "Інтэграцыя Расіі і Беларусі: каму яна выгадная, а каму — костка ў горле?"

Не буду спыняцца падрабязна на тых пытаннях, на якія дае адказы карэспандэнту Аман Тулееў, спасылаючыся на пасланне прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку, на іншыя дакументы. Але адно месца ў яго інтэрв'ю, а дакладней, адна фраза надта ўзрушыла мяне асабіста, як кажуць, абурыла да глыбіні душы. Гаворачы пра "перавагу" грамадскай думкі ў адносінах да аб'яднання дзвюх дзяржаў, пра тое, што яно гарантуе шмат сацыяльных выгод у эканамічным і палітычным жыцці, Аман Тулееў падкрэслівае: "...Руская мова, якую 80 працэнтаў грамадзян **лічаць роднай** (падкрэслена мною. — **П. П.**), прызнана другой дзяржаўнай".

Гэтыя словы, кінутыя на вецер, без аналізу канкрэтных абставінаў, у якіх апынулася сёння наша рэспубліка, не проста зводзяць у зман, а выклікаюць прыкрасць і рашучую нязгоду.

Здзіўляе і пазіцыя карэспандэнта БЕЛТА, які не паправіў маскоўскага госця, а падаў яго інтэрпрэтацыю сітуацыі на Беларусі як факт.

Прыгадайце, хто яшчэ не забыў, вынікі перапісу насельніцтва Беларусі, які праводзіўся ў нас не так даўно, на пачатку васьмідзесятых гадоў. Мне добра помніцца лічба, што на пытанне — ці лічыце вы беларускую мову роднай? — адказала больш за 70 працэнтаў дзесяцімільённага насельніцтва Беларусі. Гэта пацвярджаюць і іншыя апытанні, якія праводзіліся Інстытутам сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі, іншыя факты, матэрыялы, дакументы.

Расійскі міністр Тулееў меў на ўвазе, відаць, тое, што большасць грамадзян, якія прымалі ўдзел у апошнім рэферэндуме, праведзеным па ініцыятыве самога прэзідэнта Беларусі, выказаліся за тое, каб прызнаць рускую мову другой дзяржаўнай. І толькі. Бо ніхто з беларусаў — ні рабочы, ні селянін, ні араты, ні пісьменнік, ні вучоны — ніколі не выступаў супраць рускай мовы. Гэта мова вялікіх Пушкіна, Талстога, Дастаеўскага і Твардоўскага. Але родная мова — мова Максіма Багдановіча і Максіма Гарэцкага, Янкі Купалы і Якуба Коласа, Васіля Быкава і Янкі Брыля, Пімена Панчанкі і Рыгора Барадуліна — мова ўсяго беларускага народа. Была, ёсць і будзе вечна самай блізкай мовай для кожнага, хто нарадзіўся на нашай слаўнай, дарагой для ўсіх нас беларускай зямлі.

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

# ЯК МАЕШСЯ, НАВУКА?

*З СЕСІІ АН БЕЛАРУСІ*

***"Сёння з упэўненасцю можна сказаць, што самым значным багажом, які чалавецтва возьме з сабой у новае тысячагоддзе, будуць веды. Асноўнай сілай грамадства з'явяцца вучоныя — носьбіты высокага інтэлектуальнага патэнцыялу". Так пачаў сваё выступленне на навуковай сесіі АН Беларусі, прысвечанай Дню беларускай навукі, старшыня Вышэйшага атэстацыйнага камітэта краіны акадэмік Анатоль Дастанка. Сказана моцна, хоць, прызнацца, успрымалася з пэўным скепсісам. Да новага тысячагоддзя засталося з вераб'іны скок, але пакуль мала што сведчыць аб тым, што нашы вучоныя мужы гатовыя ў бліжэйшай будучыні стаць асноўнай сілай грамадства.***

Кажучы так, я, вядома, ні ў якім разе не хачу зменшыць ролю і дасягненні беларускай навукі. Яны сапраўды вельмі важкія, што і засведчыў у сваім дакладзе на згаданай сесіі прэзідэнт Акадэміі навук рэспублікі акадэмік Леанід Сушчэня. Каб не стамляць чытача пералікам усяго, чым адметная сёння беларуская навука, спынюся толькі на паасобных фактах. У 1996 годзе ў рамках пяцігадовага (1996—2000 гады) "Плана важнейшых навукова-даследчых работ у галіне прыродазнаўчых, тэхнічных і грамадскіх навук па рэспубліцы Беларусь" фундаментальныя даследаванні праводзіліся па 1178 тэмах. У іх выкананні прымалі ўдзел 140 арганізацый, сярод якіх 48 устаноў Акадэміі навук, 13 інстытутаў Акадэміі аграрных навук, 15 універсітэтаў, 16 акадэмій, 34 галіновыя НДІ і г. д.

Уражвае ўсё, што звязана з 68-гадовай гісторыяй Акадэміі навук Беларусі. Сёння ў яе 38 навукова-даследчых інстытутах, 5 навуковых і інжынерных цэнтрах, 3 тэматычных аддзелах, батанічным садзе, 5 канструктарскіх і доследна-вытворчых арганізацыях, іншых падраздзяленнях працуе больш як 11 тысяч чалавек, у тым ліку 4533 навуковыя супрацоўнікі, сярод якіх 457 дактароў і 2069 кандыдатаў навук. У акадэміі выраслі вучоныя з сусветнымі імёнамі, склаліся аўтарытэтныя навуковыя школы. Вучонымі АН вырашаны шэраг буйных тэарэтычных і прыкладных праблем у галіне матэматыкі, фізікі, хіміі, біялогіі, навукі аб зямлі, гуманітарных і сацыяльных навук.

Аддаў належнае акадэмік Л. Сушчэня і ўкладам у навуку вышэйшых навучальных устаноў і навукова-даследчых інстытутаў Міністэрстваў адукацыі і аховы здароўя, дзе працуюць сотні дактароў і кандыдатаў навук, аграрнай акадэміі, дзе таксама няма недахопу ў тытулаваных навукоўцах.

Прагучалі на сесіі і такія ўнушальныя лічбы: сёння ў краіне — 2 тысячы дактароў і 17 тысяч кандыдатаў навук. Цэлая армія! Мала якая краіна ў свеце можа пахваліцца такой колькасцю навукоўцаў на "душу" насельніцтва. Але ў звязку з гэтым адразу згадваюцца словы Арыстоцеля аб тым, што мала мець веды, трэба ўмець яшчэ прымяніць іх на справе. Вось у гэтым і ўзнікаюць у нас галоўныя праблемы.

Не ведаю, як каму, а мне кампліменты, выказаныя прэзідэнтам па адрасе нашай медыцынскай і аграрнай навук, падаліся заўчаснымі, дадзенымі авансам. Пагадзіцеся, нешта не чутно было, каб у нас праводзіліся, скажам, сур'ёзныя аперацыі на сэрцы, тое ж шунціраванне, пра якое сёння, пасля аперацыі,

(Працяг на стар. 4)

МЕРКАВАННЕ

# ПАДРУЧНІКІ НАПРАКАТ?..

Мабыць, кожны з нас, прыгадаўшы бедную "матэрыяльную базу" навучальных устаноў — школы, вучэльні, інстытута, дзе давялося набірацца ведаў, зробіць выснову, што адукацыя і ў былым СССР, і ў цяперашняй нашай дзяржаве была і застаецца падчаркай-папялушкай. На нядаўнім бацькоўскім сходзе ў школе, дзе вучыцца мой сын, настаўнікі даводзілі бацькам, што тыя павінны, абавязаны мыць у класах падлогу і вокны, а таксама фіранкі і ручнікі, бо ў школы няма грошай на прыбіральшчыцу і пральню. Зразумела, на такіх сходах не вырашаюцца пытанні прыярытэтаў дзяржаўнай фінансавай палітыкі, але мне, законапаслухмянаму падаткаплацельшчыку, так і карцела запытаць: дык куды ж тады ідуць грошы, якія акуратна і рэгулярна вылічваюцца з майго заробку ў якасці падаткаў? Тым болей, што ёсць у мяне нараканні і на якасць навучальных праграм.

Як вядома, пасля першага "рэферэндуму" мноства школ, так і не паспеўшы стаць беларускімі, зноў вярнуліся ў "первобытное состояние". Многім вучням на працягу кароткага часу давялося двойчы перажыць змену мовы навучання. Спачатку рускай на беларускую, потым — наадварот. Мы збольшага ўяўляем, у якую капейчыну вылятаюць "рэферэндумы" і "народныя сходы", замена падручнікаў (і гэта адна з прычын таго, што ў школах няма грошай на прыбіральшчыцу...) — значна меней вядома пра страты маральныя. Прынамсі, як адбілася на няўстойлівай псіхіцы вучняў малодшых класаў чарговая русіфікацыя.

Здаецца, зразумела, што выкладанне "рускіх" прадметаў (рускае чытанне, руская мова) у школах Беларусі мае сваю спецыфіку. Яшчэ Максім Багдановіч калісьці звярнуў увагу на тую акалічнасць што словы, якія амаль аднолькава гучаць у беларускай і рускай мовах, нярэдка маюць розны сэнс. Таму дзіця, якое асвоіла хаця б пачаткі беларускай лексікі, пры рэзкім пераходзе ў рускамоўную стыхію будзе з цяжкасцю ў ёй арыентавацца, будзе пакутаваць. Але падручнікі, па якіх вучацца ў школах Беларусі, нашу спецыфіку ігнаруюць. Яны надрукаваны ў Расійскай Федэрацыі і "утверждены Министерством образования РСФСР".

Неяк мой сын (раней ягоная школа была беларуская) папрасіў мяне дапамагчы яму з рускім чытаннем, патлумачыць некаторыя незразумелыя яму выразы (з падручніка, пра які я толькі што гаварыў). "Раздастся глас" — гэта што, "распухне вока"? — запытаў ён. На самай справе ў кантэксце было: "С рассветом глас раздастся мой, на славу иль на смерть зовущий" — з балады Рылеева "Смерть Ермака". Скажыце, ці варта вучням, якія яшчэ ўчора вучыліся на беларускай мове, а сёння блытаюцца і ў сучаснай рускай, падсоўваць тэкст на архаічнай мове пачатку XIX стагоддзя?

Ёсць яшчэ адзін момант. "Гісторыя СССР", якую вывучалі ва ўсіх школах Савецкага Саюза, па сутнасці, была гісторыяй Расіі. Прынамсі, рускі (расійскі) стрыжань праглядваўся ў ёй вельмі выразна. А тым, хто ведаў гісторыю Расіі, адносна лёгка было вывучаць рускую літаратуру. Бо і на старонках падручніка і ў літаратурных творах гаворка ішла пра адны і тыя ж падзеі. Прычым і класічная руская літаратура, і афіцыйная савецкая гістарыяграфія давалі тым падзеям аднолькавую трактоўку. З пазіцый рускага патрыятызму.

Сёння Савецкага Саюза няма, а Расія для нас — замежжа. Такое ж, як Польшча альбо Кітай. Таму вывучэнне рускай літаратуры (і мовы) зараз павінна грунтавацца на іншых праграмах, прынцыпова адрозных ад праграм савецкага часу. Бо краіне патрэбны патрыёты Беларусі, а не рэкруты "пятай калоны".

Каб не ўзнікала пытанняў, нам патрэбны іншыя падручнікі. Свае. А не ўзятыя напракат. Трэба нарэшце ўсвядоміць, што Беларусь і Расія — розныя краіны, а беларусы і рускія — розныя народы. Адпаведна: тое, што нармальна ў межах рускага менталітэту, для беларуса з'яўляецца анамаліяй.

Які б напрамак думак ні атрымаў чалавек у школе, жыццё ўсё роўна яго скарэктуе. Я ўвогуле не перабольшваю выхаваўчую ролю літаратуры і мастацтва. Але і ігнараваць гэту ролю не варта.

**В. ГРУШАЎСКІ**



# "МУЗЫЧНЫ МАГНІТ" МАГІЛЁВА

У слаўным месцы Магілёве, як заўважылі назіральныя людзі, ёсць штосьці надзвычай прыцягальнае для музыкантаў. І вядомы мужчынскі камерны хор "Унія" працуе пры тутэйшай філармоніі, і эстрадная "зорка" Алег Цівуноў лічыцца яе салістам, і дзякуючы ёй жа, Магілёўскай абласной, завіталі да нас такія недасяжныя "Віртуозы Масквы" на чале з Уладзімірам Співаковым...

У слаўным месцы Магілёве, як сцвярджаюць дасведчаныя людзі, ёсць прыцягальная для музыкантаў асоба: дырэктар абласной філармоніі Уладзімір Браілоўскі. Спанатраны ў мастацтве (са Співаковым, дарэчы, вучыўся разам у Маскоўскай кансерваторыі). Чалавек творчы (прафесійны кампазітар, напісаў, сярод іншага, музыку да шэрагу спектакляў абласнога тэатра). Арганізатар выдатны (некаторыя цудоўныя беларускія выканаўцы займелі сталае месца працы дзякуючы яму, падтрымаў ён і грузінскіх бежанцаў-музыкантаў; гастролі "зорак" бліжняга замежжа, наладжаныя абласной філармоніяй, спраўна і без падману гледачоў адбываюцца і ў Магілёве, і ў сталіцы).

А яшчэ імя Уладзіміра Браілоўскага згадваюць у сувязі з арганізацыяй песеннага фестывалю "Залаты шлягер". Вось і гэты здымак — дырэктар абласной філармоніі, адзін з чыннікаў свята віншуе госцю Магілёва, колішнюю "зорку" савецкай эстрады Наталлю Нурмухамедаву — зроблены за кулісамі "Залатога шлягера-96". І вырашылі мы яго надрукаваць, прыгадаўшы добрым словам спадара Браілоўскага, які нядаўна адзначыў сваё 50-годдзе.

**С. Б.**

*Фота А. МАЦЮША*

# СУСТРЭЛІСЯ ТЭОРЫЯ З ПРАКТЫКАЙ

Фізікі разам з лірыкамі сабраліся ў актавай зале абласной бібліятэкі імя Пушкіна (звычайна там і праходзяць паседжанні сяброў газеты "Чистый мир"). Упершыню было публічна заяўлена пра новы генератар энергіі, вынайдзены ў Беларусі. Яго назва — энергетычны контурны генератар (ЭКГ), які пераўтварае энергію прасторы ў цеплавую, вадародную і іншыя віды энергіі. (Не блытаць з "вечным рухавіком").

Ідэя генератара ўзнікла ў інжынера В. Лаца, калі той працаваў ва Усесаюзным навукова-даследчым інстытуце пад кіраўніцтвам вядомага вучонага П. Ашчэпкава. Пасля таго, як НДІ перастаў існаваць (услед за Савецкім Саюзам), праца была прадоўжана ў г. Маладзечне групай энтузіястаў-аднадумцаў. Віктар Лац расказаў прысутным доўгую гісторыю стварэння цудамашыны. Тры гады пайшло адно на пераадоленне бюракратычных перашкод. З дапамогай дзяржавы створаны доследны ўзор, распрацавана яшчэ 30 мадыфікацый. Адзін такі генератар у залежнасці ад магутнасці можа, напрыклад, абаграваць дом, гаспадарку і... цэлую краіну.

Разам з практыкам у сустрэчы ўдзельнічаў і тэарэтык — дырэктар Цэнтра перспектыўных даследаванняў (г. Масква) У. Ляонаў. Ён стварыў тэорыю квантавай прасторы, якая адказвае на многія пытанні, дасюль невядомыя навуцы. У прыватнасці, ён апісаў прыроду і ўласцівасці гравітонаў. Генератар В. Лаца — гэта і ёсць практычнае ўвасабленне тэорыі У. Ляонава, хаця кожнае з адкрыццяў было зроблена незалежна і пазнаёміліся вынаходнікі толькі нядаўна.

Падрабязней пра ўсё гэта можна прачытаць у другім сёлетнім нумары газеты "Чистый мир".

**Г. З.**

ЭКСЛІБРЫС

# БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ СШЫТАК

*"Bialoruskie Zeszyty Historyczne", Bialystok 1996 1(5).*

**Ужо чацвёрты год, як у Беластоку выходзіць паўгадавік, матэрыялы якога прысвечаны гісторыі, культуры беларусаў па абодва бакі мяжы і да якіх маюць доступ даследчыкі беларусікі, якія жывуць пераважна ў Польшчы.**

**Маю ўвагу ў гэтай кніжцы прыцягнуў матэрыял, прысвечаны спрэчцы, якая разгарэлася вакол мовы казанняў у касцёле ў мястэчку Жодзішкі 26 красавіка 1925 года. Галоўная дзейная асоба — ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, які ў тыя гады быў у Жодзішках ксяндзом-пробашчам.**

**Як пісаў у пратаколе дазнання адзін з асаднікаў, "спачатку тутэйшыя людзі непрыхільна глядзелі на казанні ксяндза ў беларускай мове, аднак, дзякуючы моцнай агітацыі ксяндза Гадлеўскага, людзі прызвычаіліся. Казанні казаліся таксама і па-польску, аднак пасля набажэнства, калі людзі выходзілі з касцёла". З павятовага старства паведамлялі, што "ўвогуле ў жодзінішскай парафіі перад пробаствам кс. Гадлеўскага беларусаў было 15 працэнтаў насельніцтва, калі зараз, дзякуючы спецыяльнай агітацыі кс. Гадлеўскага, вырас ён больш за 60 працэнтаў насельніцтва.**

**Абураныя асаднікі і спольшчаная шляхта ўзнялі гвалт. Была створаная камісія з ксяндзоў, якая мусіла вызначыць мову казанняў у Жодзішках. 26 красавіка камісія прапанавала людзям падзяліцца, у залежнасці ад таго, хто якую мову падтрымлівае, але, як сведчыць М. Мізура, каталік-беларус, "з-за таго, што паміж палякамі былі заўважаны людзі з іншых парафіяў, беларусы жадалі, каб іх выдалілі". На што, як адзначае К. Шэмбер, каталік-паляк, ім адказалі: "дык ідзі — выведзі, калі ведаеш некага між намі з нетутэйшай парафіі". Беларусы ж, па сведчанні Ф. Жылкі, каталіка-паляка, "рушылі натоўпам з крыкам "ура", біць іх", як дадае Ю. Мурашка, крычалі: "выкінуць палякаў з цвінтара; біць войта, бо ён дзержыць за палякамі". Ксёндз Гадлеўскі звярнуўся да людзей; "братцы-беларусы, супакойцеся!" Але тут, як сведчыць Б. Грыб, каталік-беларус, "нейкая асоба ў пенснэ, якая стаяла з боку палякаў, пачала свістаць у паліцэйскі свісток, пасля чаго адразу ж прыбылі паліцыянты з тутэйшага пастарунку з карабінамі і прынеслі з сабой ручны кулямёт". Як сцвярджаў потым Ю. Жылка, каталік-паляк, "прыбыццё паліцыі было абавязковым, бо інакш дайшло б да бойкі з беларускага боку, які быў мацнейшы". Як піша далей у сведчанні Л. Рэкець, каталік-беларус, закрыстыянін, "пасля гэтага, ідучы да плябані, я спаткаў каменданта пастарунку, які спытаўся ў мяне: "а табе не дасталася па ілбе?" У адказ я спытаў у яго: "Што там такога сталася?" На што ён адказаў: "А няхай іх халера ведае!" і пайшоў у плябань".**

**У выніку гэтага "рэферэндуму" ксяндза Гадлеўскага пасадзілі ў турму, а беларуская мова ў касцёле больш не гучала.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# "НАША ЗАДАЧА — НЕ ДАПУСЦІЦЬ САЦЫЯЛЬНАГА ВЫБУХУ"

*НАШ КАРЭСПАНДЭНТ ГУТАРЫЦЬ З НАМЕСНІКАМ МІНІСТРА ПРАЦЫ, КІРАЎНІКОМ ДЗЯРЖАЎНАЙ СЛУЖБЫ ЗАНЯТАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДЗМІТРЫЕМ ВАНЕЕВЫМ*

*"Колькасць беспрацоўных у Германіі дасягнула новага рэкорднага ўзроўню. Паводле дадзеных Федэральнага ведамства па справах працаўладкавання, у снежні мінулага года колькасць беспрацоўных склала 4 млн. 100 тыс. чалавек. Гэта — 10,8 працэнта ад усяго працаздольнага насельніцтва. Шэф дадзенага ведамства Бернхард Ягода заявіў, што хоць "кан'юнктура ў прамысловасці крыху палепшылася, гэтага аказалася недастаткова для таго, каб адбыліся істотныя змены на рынку працы".*

**З друку**

Зусім нядаўна падобныя паведамленні нас як бы і не тычыліся. Гэта там, за кардонам, існуе нейкае "беспрацоўе", гэта там рабочыя ладзяць нейкія "страйкі", гэта там нейкая "інфляцыя" даводзіць народ да галечы, прадпрыемствы церпяць "банкруцтвы" і г. д. Зусім, здаецца, ну зусім нядаўна гэта ўсё было не пра нас.

У нас жа ўсяму працаздольнаму люду хапала рабочых месц. Колькі нас — столькі і працоўных месцаў. Больш за тое! Паспрабуй толькі ўхіліцца ад працы ці вучобы — адразу ж прыцягнуць за дармаедства да адміністрацыйнай адказнасці. Такая была сацыялістычная сацыяльна-эканамічная піраміда. І калі з яе падмурка выцягнулі адзін блок, ці, скажам, звяно, — яна абрынулася, развалілася. І сёння мы маем тое, што маем. Як у песні спяваецца: гэта было нядаўна, гэта было даўно. Звесткі аб тым, што на пачатак гэтага года толькі ў Мінску зарэгістравана больш чым 21 тысяча беспрацоўных (2,0 працэнта працаздольнага насельніцтва), — нас ужо не здзіўляюць. Прывыклі. Гэта ўжо рэаліі і нашага жыцця, а не толькі "іхняга".



А што такое сёння страціць працу? Гэта вымаўляецца амаль гэтаксама, як — страціць блізкага чалавека. Прынамсі, дзеяслоў ужываецца ў абодвух выпадках адзін — "страціць". Сёння страціць працу — гэта, па-першае, адчуць матэрыяльную нястачу, за якой — голад, галеча, жабрацтва. Па-другое, што не менш важна, — спазнаць такі моцны шок, стрэс, такія негатыўныя эмоцыі, такую вострую псіхалагічную траўму, разгубленасць, безвыходнасць, непатрэбнасць сваю, якія робяць асобу сацыяльна-небяспечнай, гатовай да любога непрадказальнага ўчынку, ажно да рабаўніцтва ці самазабойства.

А ў генах жа нашых закладзены вялікі сацыяльны інфантылізм. Закладзены нашым выхаваннем калектыўна-камуністычным. Мы нічога не ўмеем вырашаць самі. За нас думалі паэтапна — спачатку школа, потым камсамол, пасля інстытут, партыя і г.д. І мы сёння інтуітыўна шукаем падтрымкі ў блізкіх людзей, сяброў, былых саслужыўцаў, кідаемся з месца на месца, звонім па аб'явах, пакуль урэшце не прыходзім у Дзяржаўную службу занятасці.

Дарэчы, сюды ідуць не толькі тыя, што страцілі работу, а яшчэ і выпускнікі ВНУ і тэхнікумаў з вольнымі дыпломамі, звольненыя са службы ў войску, хатнія гаспадыні і іншы розны люд, перад якім паўстала праблема работы — праблема выжывання.

Прыйшла сюды і я, каб даведацца, якую тут могуць даць раду чалавеку, што страціў работу.

**— Дзмітрый Іванавіч, якая сёння самая актуальная і балючая праблема для Дзяржаўнай службы занятасці? Наколькі дакладны ў нас падлік беспрацоўных? Якая ў нас сітуацыя на рынку працы наогул? Штодня мы чуем пра так званае "скрытае беспрацоўе": многія прадпрыемствы прастойваюць, людзі не працуюць, ці працуюць няпоўны працоўны тыдзень — ці апраўдваецца гэтая тактыка захавання любой цаной працоўных калектываў, якія тут перспектывы?**

— Я пачаў бы з таго, што мы не дапусцілі высокага росту беспрацоўя, што яно, у прынцыпе, спынілася на не надта вялікай лічбе. Колькасць беспрацоўных па рэспубліцы складае недзе 183 тысячы чалавек, гэта прыблізна 3,3 працэнта працаздольнага насельніцтва. Калі ўзяць асобныя рэгіёны, то між імі назіраецца досыць істотная розніца. У рэгіёнах з монавытворчасцю, скажам, у асобных раёнах Віцебскай вобласці, дзе сканцэнтраваны найбольш буйныя вайсковыя гарадкі, беспрацоўе дасягае і 8 працэнтаў. А самае высокае беспрацоўе ўвогуле — у Гомельскай вобласці: яно складае сёння 4,1 працэнта.

Што да "скрытага беспрацоўя", то па выніках мінулага года ў нас яшчэ няма канчатковай лічбы. Але па папярэдніх падліках паасобных эканамістаў прыблізная лічба тут даходзіць да 25 працэнтаў, а калі ўзяць асобныя прадпрыемствы, то яна дасягае і 70—80 працэнтаў. Не дапусціць новай хвалі беспрацоўя — гэта і ёсць наш асноўны клопат, клопат і ўрада, і прэзідэнта. У новай канстытуцыі адзначаецца, што дзяржава забяспечвае поўную занятасць насельніцтва іменна праз службу занятасці. Тым, хто да нас звяртаецца, мы абавязаны дапамагчы: ці перааб учыць, а пасля накіраваць на працу, ці адразу падшукаць працоўнае месца. За мінулы год у нас пабывала каля 400 тысяч чалавек. Калі мы параўнаем узровень беспрацоўя ў нас з беспрацоўем у іншых краінах, — напрыклад, у Польшчы — 15—20 працэнтаў, у Прыбалтыйскіх краінах — 10 і больш працэнтаў, у Германіі ў асобных сферах да 30 працэнтаў, — дык мы выглядаем на гэтым фоне зусім няблага.

**— Беспрацоўным, што зарэгістраваліся ў службе занятасці, выплачваецца дапамога. Наколькі мне вядома, гэта 133 тысячы рублёў. Перад новым годам "спажывецкая карзіна" ацэньвалася ў 1 мільён 102 тысячы рублёў. Пасля апошняга скачка цэн яна, можа, цягне ўжо і на 2 мільёны. Хіба можна пражыць на такую мізэрную дапамогу?**

— З ростам мінімальнай заработнай платы будзе расці і дапамога па беспрацоўі. А што яна недастатковая? Што ж, пакуль што дзяржава не можа раскашэліцца на больш шчодрую суму. Менавіта дзеля гэтага мы яшчэ накіроўваем людзей на грамадскія работы. Людзі разумеюць, што на адной дапамозе не працягнеш. А некаторыя ідуць, калі ўзяць Мінск, на тую ж Камароўку ці на стадыён "Дынама", каб сёе-тое дадаць да яе. Ім ніхто не забараняе гэта рабіць.

**— Дзмітрый Іванавіч, якія сацыяльная пласты, які кантынгент насельніцтва прыходзіць у службу занятасці?**

— Я б паставіў пытанне інакш: "Беспрацоўны — якое ягонае аблічча?" Гэта найперш жанчына сярэдняга веку, якая мае сярэднюю, ці сярэдне-тэхнічную адукацыю. Менавіта яна найхутчэй трапляе ў армію беспрацоўных. Тут не трэба забываць, што кошт рабочай сілы ўсё ж існуе, і чалавек, які мае высокі ўзровень адукацыі ці прафесіяналізму, урэшце працаўладкоўваецца. Ці сам знаходзіць працу, ці з нашаю дапамогаю — прайшоўшы ў нас пераабучэнне, набыўшы тут новую спецыялізацыю. Недзе ў 1991-92 гадах мы мелі нямала беспрацоўных і з вышэйшай адукацыяй, пасля ж гэты працэс пачаў мяняцца ў лепшы бок.

**— Як вы ставіцеся да такога стэрэатыпу, што беспрацоўнымі становяцца найперш нешчаслівыя людзі, няўдачнікі?**

— Я б не сказаў, што ўсе гэтыя 400 тысяч чалавек, якія звярнуліся ў службу занятасці, няўдачнікі. Я б сказаў інакш. У прынцыпе ўжо сёння ў нас існуе рынак працы, ніхто гэтага адмаўляць, пэўна, не стане. І чалавек павінен разумець, што калі ён недзе працуе, атрымлівае заработную плату (не кажу пра звольненых па скарачэнні штатаў, дзе прадпрыемства банкрут), то памяняць работу ва ўмовах рынку — складаны працэс. І таму я сказаў бы, што гэта не няўдачнікі, а людзі, што не змаглі зарыентавацца ў новых умовах. А ўмовы прыходзяць жорсткія. Як і паўсюль. У той жа Германіі, Францыі чалавек разумее, што за яго спіной стаіць армія беспрацоўных, што ягонае месца на прадпрыемстве, скажам, будзе тут жа занята. Адсюль і адносіны да працы. Чалавек даражыць месцам работы. У нас жа што атрымліваецца? Ат, неяк будзе! На гэтым свет клінам не сышоўся, знайду нешта іншае! А ці знойдзе? Ці так гэта лёгка? Мінулася кату масленіца!.. Вось гэта народ толькі-толькі пачынае ўсведамляць. Толькі летась людзі пайшлі на пераабучэнне ўсвядомлена, датуль жа іх даводзілася ледзь не сілай прымушаць. Людзі павінны зразумець, што калі служба занятасці прапануе нейкую работу, ці перападрыхтоўку, то гэта не для адчэпу. У нас ёсць дамоўленасць з прадпрыемствамі, існуюць трохбаковыя дамовы: служба занятасці — прадпрыемства — вучэбная ўстанова. І вынікі неблагія. У сярэднім больш за 60 працэнтаў нашых кліентаў, а па асобных спецыяльнасцях і да 90 працэнтаў пасля перападрыхтоўкі працаўладкоўваюцца.

**— Біржа працы і служба занятасці — паняцці ідэнтычныя?**

— У простанароддзі службу занятасці прывыклі называць біржай працы. Аднак біржа выконвае адну пасрэдніцкую функцыю — працаўладкаванне. А Дзяржаўная служба занятасці — гэта больш шырокае паняцце. Першая наша функцыя — гэта, вядома, забеспячэнне занятасці. Другая — мы займаемся, як я ўжо гаварыў, пераабучэннем. І, нарэшце, трэцяя — мы ствараем новыя рабочыя месцы. Інакш кажучы, людзям з набытай у нас новай спецыяльнасцю даем магчымасць самастойна пачаць сваю справу. Вучым, як напісаць бізнес-план, як зарэгістравацца ў выканкаме ў якасці прадпрымальніка, беспрацэнтна выдзяляем пазыкі тым, хто хоча заснаваць сваё прадпрыемства.

**— А так званыя грамадскія работы, пра якія вы крыху згадвалі вышэй? Гэта таксама ваш клопат?**

— Вядома. Сельгасработы, некваліфікаваная праца па прыбіранні тэрыторыі заўсёды патрабуюць рабочай сілы. Калі беспрацоўны атрымае дапамогу, а ў дадатак за працу ў калгасе яшчэ 2—3 мяхі бульбы ці капусты — гэта ўжо сякая-такая падтрымка.

**— Дзмітрый Іванавіч, па шчырасці: кіраўнікі прадпрыемстваў не заўсёды бяруць на работу вашых пратэжэ? Ці не так?**

— Хацеў бы падысці да гэтага пытання вельмі ўважліва. Для таго, каб кіраўнікі прадпрыемстваў не бралі чалавека з вуліцы, яны нам даюць заяўку, а мы ці шукаем спецыяліста з адпаведным вопытам работы, ці перападрыхтоўваем яго. Больш за тое, мы пасылаем на прадпрыемства 2—3 чалавек, каб кіраўніцтва само магло зрабіць канчатковы7 адбор. І многія пачынаюць разумець, што лепш узяць спецыяліста не з вуліцы, ці па аб'яве ў газеце, а менавіта ад нас, што куды больш надзейна.

**— Значыць, аўтарытэт службы занятасці расце?**

— Людзі, паўтаруся, пачынаюць разумець, што наша служба занятасці забясупечвае чалавека работай, дае шанц на выжыванне. Па асобных гарадах і раёнах давер да нашай службы, само сабою, розны. Там, дзе склаўся добры калектыў, там і вынікі відавочныя. А працаваць з людзьмі, якія засталіся без работы, паверце, нялёгка. Тут трэба быць і псіхолагам, і юрыстам, і эканамістам, і проста добрым, уважлівым чалавекам. Чалавек прыходзіць да нас і спавядаецца, як перад бацюшкам, і трэба ўмець яго выслухаць, супакоіць, прымусіць паверыць у сябе.

**— Дзмітрый Іванавіч, служба занятасці — установа на пераходны перыяд — ад размеркавальнай да рыначнай эканомікі, ці яна застанецца і пасля?**

— Возьмем любую развітую краіну. Там, дайце веры, існуюць дзяржаўныя службы занятасці. У кожнай краіне яны называюцца па-рознаму, але выконваюць адну і тую ж ролю: дапамагаюць чалавеку працаўладкавацца. Ва ўсіх краінах свету існуе беспрацоўе, ёсць і будзе яно і ў нас, таму і служба наша, як кажуць, усур'ёз і надоўга. Назаўсёды.

**— Хацелася б ведаць: дапамога па беспрацоўі выплачваецца з бюджэтных сродкаў?**

— Існуюць страхавыя плацяжы, гэта значыць, што кожны працуючы адлічвае адзін працэнт ад сваёй зарплаты ў Дзяржаўны фонд дапамогі беспрацоўным. Вось адкуль нашы сродкі. Дарэчы, хачу ўдакладніць, здаецца ўпусціў гэты момант, што права на дапамогу па беспрацоўі маюць толькі зарэгістраваныя ў нашай службе і тыя, хто звольніўся не па ўласным жаданні.

**— Дзмітрый Іванавіч, вядома, што чым менш беспрацоўных, тым лепш для ўсіх, у тым ліку для краіны наогул. З гутаркі з вамі я зразумела, што Дзяржаўная служба занятасці імкнецца не проста дапамагчы людзям, але і спрагназаваць сітуацыю, каб гэтая дапамога была і больш дзейснай, і больш канкрэтнай. Які, так бы мовіць, каэфіцыент карыснага дзеяння службы занятасці?**

— Ккдз нашай службы — не дапусціць сацыяльнага выбуху, што мы і пацвердзілі сваёю працаю ў цяжкім 1996 годзе.

**— Поспехаў вам!**

**Гутарыла Марыя МІХАЙЛАВА**

# І ПРАЦАВАЛІ, І ГУЛЯЛІ...

**Памыляюцца тыя, хто мяркуе, што нашы продкі толькі тым і займаліся, што ад цямна да цямна працавалі, не разгінаючы спіны. Канечне, ім даводзілася нялёгка, вольнага часу было мала. Тым не менш і пра адпачынак яны не забывалі. І не проста, так бы мовіць, расслабляліся, а, па-цяперашняму, аддавалі перавагу карыснаму адпачынку. Прынамсі, як сведчыць у кнізе "Мядовы бунт" С. Цярохін, "з дваццаці ўсходнеславянскіх гарадоў перыяду Кіеўскай Русі, у якіх знойдзена хоць адна шахматная фігурка, пятнаццаць размешчаны ў межах сучаснай Беларусі. Найбольш старажытныя фігуркі паходзяць з Ваўкавыска, Копысі і з гарадзішча на Менцы (12 км ад Мінска) і датуюцца XI стагоддзем".**

**Прыводзячы згаданыя факты, Алесь Лозка заўважае: "Гэта дазваляе зрабіць вывад, што ўжо ў такі далёкі час у народзе была добра развітая культура гульняў". А прыходзіць ён да падобнай высновы ў артыкуле "Беларускія народныя гульні", што змешчаны ў якасці ўступу да кнігі "Гульні, забавы, ігрышчы", якая папоўніла шматтомную серыю "Беларуская народная творчасць", што заснавана ў 1970 годзе.**

**Кнігі гэтай серыі раней выпускала выдавецтва "Навука і тэхніка", а том "Гульні, забавы, ігрышчы" пабачыў свет у выдавецтве "Беларуская навука" (А. Лозка не толькі напісаў уступны артыкул, а і зрабіў укладанне тома, класіфікацыю, сістэматызацыю матэрыялаў, падрыхтаваў каментарыі). Пабачыла ж кніга свет пад эгідай Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фалькльору Акадэміі навук Беларусі і Беларускага навукова-метадычнага цэнтра гульні і цацкі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.**

**Як падкрэслівае А. Лозка, "у чарговы том уключаны тэксты гульняў, забаў і ігрышчаў, адшуканыя ў розных архівах, выданнях, якія па розных прычынах не ўвайшлі ў папярэднія кнігі серыі "Беларуская народная творчасць". Выключэннем з'яўляюцца адзінкавыя творы. Акрамя таго, уключаны некаторыя тэксты, якія больш падыходзяць да віду абраду, але са значнай доляй у іх гульнёвага элемента. Гэта ў асноўным датычыць каляндарнага і сямейна-абрадавага раздзела".**

**Дарэчы, том "Гульні, забавы, ігрышчы" падзяляецца на раздзелы: "Каляндарныя і сямейна-абрадавыя", у якім асобна прадстаўлены зімовыя, веснавыя, летнія і асеннія, а таксама сямейна-абрадавыя гульні; і "Гульні, не звязаныя з календаром і абрадамі (ці згубілі сувязь)". А гэта — гульні з палкамі, мячом, іншымі прадметамі, гульні без прадметаў альбо з выпадковымі, спадручнымі прадметамі — з бегам наперагонкі, з лоўляю, з пошукам, з элементамі барацьбы і іншымі сілавымі прыёмамі. Тут жа прадстаўлены гульні з дзеяннямі, якія патрабуюць кемлівасці, наглядальнасці, а таксама гульні з элементамі інтэрмедыі, харэаграфіі, імітацыі або творчай выдумкі; забавы, пацехі.**

**Несумненную цікавасць уяўляе і "Каляндар народных гульняў, забаў і ігрышчаў", у якім па месяцах указваюцца дні, калі адбываліся традыцыйныя гульні беларусаў, што згадваюцца ў гэтым томе.**

**Гульняў у томе прадстаўлена шмат, прытым самых розных. Асобныя з іх сведчаць і аб тым, што ў беларусаў былі свае нацыянальныя віды спорту. Хіба "кулачкі" — не свайго роду бокс? А "Дужанне", "Боркі" — ці не элементы барацьбы? Магчыма, з цягам часу яны і адродзяцца...**

**А. М.**

# СУСТРЭЧЫ, ПРЭМ'ЕРЫ, ВЕЧАРЫНЫ

**ЗАПРАШАЕ ДОМ ЛІТАРАТАРА**

**У лютым тут адбудзецца шэраг мерапрыемстваў.**

**6 лютага пройдзе прэм'ера дакументальных фільмаў студыі "Летапіс" "Апошні сон Барыса Сачанкі" і "Ад прадзедаў спакон вякоў".**

**Вечарына, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння Алеся Звонака, запланавана на 14 лютага.**

**Міхасю Стральцову споўнілася б 60 гадоў. Прыхільнікі яго таленту збяруцца 20 лютага на вечарыну "Абраннік сонечнага Феба".**

**"Любоў прасветлая" — так называецца абанементны спектакль тэатра "Зніч" з удзелам народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, які адбудзецца 27 лютага.**

**ПАЧАТАК УСІХ ГЭТЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ — у 18 гадзін 30 мінут.**

**19 лютага ў 15 гадзін збіраецца секцыя паэзіі. У гэты ж час 26 лютага пачнецца пасяджэнне секцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва.**

КНІГАРНЯ

# "ПАКЛЯНЁМСЯ ДБАЦЬ ПРА КАРАНІ..."

Яшчэ адна кніга гісторыка-краязнаўчага зместу пабачыла свет у выдавецтве "Полымя", якое, як вядома, з году ў год настойліва і мэтанакіравана выпускае літаратуру падобнага кшталту: калектыўны зборнік нарысаў, артыкулаў "Сыны і пасынкі Беларусі", складзены С. Барысам. Аб змесце яго дае, бадай, адказ эпіграф, у якасці якога ўзяты радкі народнага паэта Беларусі Р. Барадуліна:

*Над святынямі паруйнаванымі*
*Паклянёмся дбаць пра карані.*
*Будзем Янкамі, а не Іванамі,*
*Што не ведаюць свае радні.*

Думку гэтую ўдакладняе С. Барыс у прадмове "Хто такія сыны і пасынкі?", згадваючы не адзін дзесятак імёнаў тых, кім мусіць па праве ганарыцца Бацькаўшчына. Але ці ўсе яны, вартыя пашаны, у кожнага, як кажуць, на слыху? С. Барыс спрабуе разабрацца ў гэтым.

Сапраўды, сталася так, што некаторыя з тых, хто зрабіў вельмі шмат для Беларусі, па-ранейшаму ўспрымаецца на Радзіме свайго роду пасынкамі, а не сынамі. Па розных прычынах. Але нельга не пагадзіцца з аўтарам прадмовы, што "трэба ведаць і пра сыноў і пра пасынкаў сваёй Бацькаўшчыны. Магчыма, нехта з іх у вашым уяўленні — сын, а іншы — пасынак. Будзьце ж да іх спагадлівыя. Пастарайцеся зразумець тых людзей, якія жылі, тварылі і змагаліся ў іншы час, яшчэ больш заблытаны і складаны, чым сённяшні".

Тым самым С. Барыс загадзя папярэджвае, што матэрыялы зборніка будуць рознымі чытачамі ўспрыняты неадназначна. Папярэджвае і разам з тым жадае, каб нязгода ў асобных ацэнках не выклікала негатыўнага стаўлення да публікацый, якія камусьці прыйдуцца не па душы. Прыслухаемся ж да гэтага пажадання і пастараемся глянуць на кнігу з той пазіцыі, з якой да яе і неабходна падыходзіць: наколькі жыццяпісы людзей, што сталі героямі нарысаў, артыкулаў, дазваляюць нам лепш пазнаць свае карані, зразумець, што ва ўсе часы шлях да ісціны быў вельмі складаным,а таму нельга канкрэтнай гістарычнай асобе даваць цалкам станоўчую ці рэзка адмоўную ацэнку.

Два першыя героі кнігі — тыя, хто сёння ўвагай не абыдзены. С. Тарасаў у нарысе "Усяслаў Чарадзей — князь полацкі" звяртаецца да вобліку дзеяча, які стаяў ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці. Г. Ланеўскі ("Бітва народаў") і С. Барыс ("Вітаўт Вялікі"), кожны па-свойму, асэнсоўваюць здзейсненае тым, хто на алтар дзяржаўнасці паклаў сваё жыццё. Праўда, калі Г. Ланеўскі абмяжоўваецца расказам пра Грунвальдскую бітву, дык С. Барыс глядзіць на шлях, пройдзены Вітаўтам, у самых розных аспектах, імкнучыся паставіцца да ўсяго як мага больш аб'ектыўна. І гэта яму ўдаецца. Прынамсі, там, дзе С. Барыс менш паддаецца эмоцыям, а абапіраецца на факты, ці робіць высновы, якія вынікаюць непасрэдна з іх.

А вось М. Абабурка ўжо назваў свайго матэрыялу — "Вучоны і асветнік ці "халоп" Пятра Вялікага?", па сутнасці, запрашае да спрэчкі. І на самой справе, хто ён, "беларусец" І. Капіевіч — адзін з самых адукаваных людзей свайго часу — ці ўсяго толькі чалавек, які верай і праўдай служыў гасудару? Несумненна, ісціне адпавядае іншае: "Думаецца, ёсць усе падставы для таго, каб наш слынны зямляк, Ілья Фёдаравіч Капіевіч, які сваёй рознабаковай ды самаахвярнай дзейнасцю на карысць усходнеславянскіх народаў, як асветнік і гуманіст, перакладчык і кнігавыдавец, паэт і публіцыст, навуковец і вынаходнік, стаяў у адным шэрагу з такімі знакамітасцямі, як Ф. Скарына, С. Будны, Л. Сапега, С. Полацкі і інш., а таксама заслужана ўшаноўваўся кожным беларусам".

Нямала сказана апошнім часам і пра Т. Касцюшку, А. Міцкевіча. Але чытаеш нарысы Я. Юхо "Наш нацыянальны герой" і С. Барыса "Паэт-рамантык" — і пра "знаёмасць" матэрыялу забываеш. Аўтары здолелі знайсці такі падыход, што быццам перажываеш пачуццё сустрэчы з малавядомым табе ці зусім незнаёмым. Безумоўна, перш за ўсё сказваецца захопленасць прадметам гаворкі, улюбёнасць у постаці гэтых слынных людзей, жыццё і дзейнасць якіх аднолькава належаць і беларускаму, і польскаму народу, а самі яны з сузор'я сусветнай велічыні.

Даўні даследчык усяго, што звязана з К. Каліноўскім, В. Шалькевіч выступае з нарысам "Невядомыя старонкі з жыцця Кастуся Каліноўскага". Працуючы ў бібліятэках Польшчы і вывучаючы рукапісныя матэрыялы, прысвечаныя паўстанню 1863—1864 гадоў, яму ўдалося ўстанавіць імя той, каму "Яська - гаспадар з-пад Вільні" прысвяціў неўміручыя радкі: "Марыська чарнаброва, галубка мая, Дзе ж падзелася шчасце іясна доля твая? Усё прайшло, як бы не бывала, Адна страшэнна горыч у грудзях застала". Яе і ў сапраўднасці звалі Марыя, а прозвішча

ЧАСОПІСЫ

# АДОЛЕЦЬ ЗАШІШША ДУШЫ

Магчыма, не так і часта друкуецца С. Шах, але кожная сустрэча з яе творамі прыносіць радасць. Як і гэтая падборка, што змешчана ў снежаньскім нумары часопіса "Полымя". Чытаеш творы і каторы раз думаеш, што сапраўдны талент абавязкова раскрыецца, незалежна ад таго, дзе жыве пісьменнік — у сталіцы ці ў глыбінцы. А яшчэ — пра тое, што літаратурна-мастацкім выданням, бадай, неабходна завесці спецыяльныя рубрыкі кшталту "Творца з глыбінкі", каб прыцягнуць пільнейшую ўвагу да тых, хто рупна, упэўнена працуе ў літаратуры, хоць і жыве, як быццам, на перыферыі ад яе. Можна было б пад гэтай рубрыкай публікаваць і творы паэтаў, празаікаў, артыкулы пра іх творчасць, і прадстаўляць літаратурныя аб'яднанні. Дарэчы, у адным з апошніх нумароў "ЛіМа" нешта падобнае з'явілася — рубрыка "Глыбінка". А ў тым жа Светлагорску, дзе жыве С. Шах, ёсць яшчэ адзін цікавы паэт — І. Катляроў, не кажучы ўжо пра членаў мясцовага літаб'яднання, хто пакуль не ўступіў у Саюз пісьменнікаў.

Але пра вершы С. Шах. Хораша, шчыра, натуральна гучаць радкі паэтэсы. Яны і пра тое, што радуе і непакоіць кожны дзень, але яны і пра вечнае, якое вырастае з саміх будняў, прабіваецца праз іх. І ў гэтым — сама дыялектыка жыцця. І нам пастаянна набліжацца да спасціжэння яе. Жыццё ж — сапраўднае, бурліва-імклівае там, дзе ўдаецца вырвацца, насуперак усяму, са звыклага. На падобны роздум наводзіць і безыменны верш С. Шах, якім адкрываецца яе новая падборка:

*Зіма — не зіма і вясна — не вясна,*
*бягуць дні, а быццам — ні з месца.*
*І добрая ўсцешыць імкне навіна,*
*а неяк не дойдзе да сэрца.*

*Бязважкасць, бязвоблачнасць, штыль зацяжны —*
*нядобрая гэта спакойнасць.*
*І думкам, і справам — ніякай цаны,*
*калі не ўзбуджаюць свядомасць.*

*Мне б выбрацца з гэтай няўцямнай пары,*
*мне б толькі адолець зацішша, —*
*каб зноў у вятры, у крутыя віры,*
*дзе час неўміручасцю дыша.*

"Адолець зацішша" душы — пазбавіцца выпадковага, наноснага, неабавязковага, выбрацца са "штылю зацяжнога". А тым самым і самога сябе пераадолець. І пачаць жыць інакш, чым дагэтуль. Чаму інакш? Магчыма, і так жыць, як жыў, пакуль не найшло на цябе ўсё непатрэбнае, не ўласцівае табе. Зрабіць гэта прасцей, калі сумненні і ваганні душэўнага, маральнага плана. А як быць, калі не толькі тваё асабістае жыццё перайначылася? Ды і перайначылася яно таму, што адбыліся змены, пра якія некалькі гадоў назад і ў сне падумаць не мог. На жаль, часта не ў лепшы бок. І тады быццам трапіў у пастку, і як ні сілішся, а вырвацца з яе не можаш. Бо ўратаванне не толькі ад цябе аднаго залежыць. Трэба і намаганні іншых — і тых, хто поруч, — і тых, ад каго многае залежыць у гэты крытычны момант.

А ў такім безвыходным становішчы апынулася галоўная гераіня аповесці І. Шамякіна "Палеская мадонна" ("Полымя") Надзея Русак: "Надзя была лепшай цялятніцай, ордэн атрымала, прэміі. І Мікола, будаўнік, водаправодчык, электрык, нядрэнна зараблЯў, хоць нямала і прагульваў, завадзяга. Але ўсё рушылася. Саўгас стаў акцыянернай фірмай. Дырэктар той жа, якога раней хвалілі і начальства і людзі". Ды і жыццё рабочых саўгаса змянілася. І, канечне ж, не ў лепшы бок. Але каб жа толькі пагоршылася яно, яшчэ неяк трываць можна. А то зусім нявыкрутка, хоць нема крычы. Зарплату не выплачваюць...

Усім цяжка, але куды цяжэй Надзі. Сям'я ж немаленькая — чацвёра дзяцей. А муж падаўся ў заробкі ў горад, катэджы будуе, але таксама няшмат атрымлівае, а калі атрымлівае, дык прапівае. Здаецца, увесь белы свет для Надзеі звузіўся, на адным сышоўся: як выжыць, дзе знайсці выйсце з гэтай безвыходнай сітуацыі:

"Чым накарміць дзяцей?

Божа мой! Успомніла, што на сённяшні дзень у хаце няма і акрайца хлеба. Жах. І цыбульку... пашчыпала ўжо Юлька ды Юрачка. Прасіла іх, маліла, лаяла, пагражала карай: дайце цыбульцы вырасці! Ды як можна караць галодных дзяцей, асабліва такую малечу, як Юрка і Юлька? Яны паслухмяныя ў яе. Бальшуха Машка можа стаіць, схлусіцць; Арцёмка — сама праўда і сумленнасць. Як ён здзівіў суседку Мар'ю, калі знайшоў у сваёй крапіве яйкі ад яе курыцы і прынёс ёй! Сварлівая, крыклівая, падазроная — усе ў яе крадуць, — суседка была ашаломленая, калі Арцёмка прынёс яйкі, ажно шэсць штук".

Арцёмка дык сумленным аказаўся, а яна сама як бы зрабіла? "Надзея падумала: каб сама яна знайшла, то аддала б ці не? Чужога ніколі не брала, саўгаснае брала. У любы іншы час нават пасля сваркі з Мар'яй вярнула б ёй гэтыя няшчасныя яйкі. "А сёння? Каб знайшла сёння?" — спытала ў сябе і сцялася, ажно шчокі загарэліся, і не адказала нават думкай, бо адчула, што не вярнула б. О, каб знайсці хоць адно яйка! Хаця б Юрачку... І ўпікнула сябе: "А Юлька што? А Арцёмка і Машка... хіба ім не хочацца есці? Вялікія? Божа мой! Якія яны вялікія! Дзеці горкія! Арцёмка толькі выдае сябе за гаспадара, за памочніка. А Маша... хоць і скончыла восьмы клас... Але ёй не толькі паесці хочацца... А каму не хочацца? Але і адзецца ўжо, як дзяўчыне".

Сённяшняе жыццё праўдзіва, бескампрамісна, я б сказаў, аголена паказвае пісьменнік. Не сумняваюся, што знойдзецца нямала ахвочых, як было ўжо неадночы, у кулуарах, "за спіной" пакрытыкаваць і гэты твор І. Шамякіна, як і надаўня яго аповесці, прынамсі, "Выкармак", змешчаную ў пятым—сёмым нумарах часопіса "Беларуская думка" за мінулы год. І не за тое, што, магчыма, у гэтых творах нешта не спадабалася ім з мастацкага боку. Непрымание іншага плана. Не падабаецца сяму-таму такая праўда. А вы паедзьце ў глыбінку, зазірніце ў вёскі, дзе людзі па паўгода не атрымліваюць зарплаты. Зайдзіце ў хаты такіх жанчын, як Надзея Русак! Часам адкрыецца яшчэ больш жудасны малюнак. Па вёсцы, дзе жывуць мае бацькі, ведаю пра такі выпадак. У сям'і, у якой прапілі ўсё,

мела Ямант.

Гісторыя кахання К. Каліноўскага і М. Ямант, пададзеная В. Шалькевічам, вартая мастацкіх твораў. Ды і сам аўтар піша не па-навуковаму суха, а эмацыянальна, і гэта надае расказу большую прыцягальнасць. Міжволі думаеш: а як жа мы прыбядняемся і тады, калі перавыдаём розныя кнігі пра ролю жанчын у лёсе вялікіх людзей, забываючыся, не жадаючы ведаць (ды часта і не ведаем!), што прыкладаў яркага самаахвярнага кахання можна знайсці шмат і сярод слынных беларусаў.

У полі зроку Г. Кісялёва ("Арол са зламаным крылом") — "апошні з кагорты вялікіх рэвалюцыянераў XIX стагоддзя" В. Урублеўскі. Як і В. Шалькевіч, Г. Кісялёў даўно цікавіцца матэрыяламі, звязанымі з жыццём таго, чый шлях ён даследуе, выдаў кнігу "Паплечнік Каліноўскага". Перакананы: "Феномен Урублеўскага будзе заўсёды для нас прыцягальным, гісторыкі і пісьменнікі будуць не раз рабіць спробы пранікнуць у таямніцы яго жыцця". Але лепш за іншых, канечне, гэта могуць рабіць тыя, хто шмат працуе ў архівах, мае магчымасць знаёміцца з першакрыніцамі. Г. Кісялёў, канечне ж, з шэрагу такіх людзей. Таму так і цікава заўсёды яго чытаць. І нарыс "Арол са зламаным крылом" — яшчэ адно пацвярджэнне таму.

Праўдзіва паказаны жыццё і дзейнасць В. Ластоўскага ("Гісторык Вацлаў Ластоўскі" А. Грыцкевіча і "Новыя факты з апошніх гадоў жыцця Вацлава Ластоўскага" М. Ількевіча), І. Дварчаніна ("Ігнат Дварчанін — рэвалюцыянер, гісторык, паэт" У. Адамушкі), С. Рака-Міхайлоўскага ("Сацыял-дэмакрат Сымон Рак-Міхайлоўскі" таго ж У. Адамушкі), Ф. Аляхновіча ("Драматург, акцёр Францішак Аляхновіч" З. Лысенкі), Б. Кіта ("Вучоны з сусветным імем" Л. Савік). Хоць часам з'яўляецца адчуванне, што пра асобных з гэтых дзеячаў можна было б пагаварыць і шырэй (выключэнне хіба В. Ластоўскі). Але ж не будзем забываць, што памер зборніка абмежаваны, а пра таго ж Б. Кіта ў Л. Савік ёсць дзве кнігі.

Першаадкрывальнікам выступаюць Э. Карніловіч ("Чырвоны генерал") і А. Цыхун ("Паэт Макар Краўцоў"). Пра каго гаворыць А. Цыхун, відаць з назвы матэрыялу. Хіба трэба дадаць для недасведчанага чытача, што М. Краўцоў — аўтар верша "Ваяцкі гімн", альбо "Ваяцкі марш", з якім у 1919 годзе выступіў у газеце "Беларусь", што выдавалася ў Мінску. Неўзабаве кампазітар У. Тэраўскі паклаў яго на музыку і песня стала гімнам удзельнікаў Слуцкага збройнага чыну 1923 года. Дарэчы, пра што і нагадвае М. Краўцоў, гэты твор выконваўся пры савецкай уладзе да 1930 года, толькі ў другой страфе М. Чарот зрабіў некаторыя змены. Асноўная тычылася таго, што "штандар наш бел-чырвона-белы" ператварыўся ў "свабодны сцяг, штандар чырвоны".

Што да героя нарыса Э. Карніловіча А. Станкевіча, дык ён і на самой справе быў "чырвоным генералам". Здавалася б, пасля гэтага мусіў быць у пашане ў афіцыйнай ідэалогіі. Ды чамусьці ўлады забыліся пра гэтага слаўнага сына Бацькаўшчыны, і ператварыўся А. Станкевіч на не адно дзесяцігоддзе ў пасынка. Магчыма, і за тое, што перад тым, як стаць генералам "чырвоным", быў генералам царскім. Закатавалі А. Станкевіча дзянікінцы ў 1919 годзе. Тыя, каму ён служыў сумленна, перазахавалі яго на Чырвонай плошчы... І вось цяпер вяртанне з небыцця.

Уяўленне аб кнізе будзе няпоўным, калі не згадаць нарысы А. Літвіна "Генерал Булак-Балаховіч (міфы, фальсіфікацыі, рэальнасць)" і А. Вабішчэвіча "Але ж шлях да Свабоды старонка праложа!", герой якога — К. Езавітаў. Гэтыя дзве публікацыі выклічуць найбольшае непрыманне ў тых, хто ніяк не хоча адысці ад стэрэатыпу ў ацэнцы дзейнасці пэўных гістарычных асоб.

Адразу ўдакладню: тое, што рабіў К. Езавітаў, калі пайшоў на адкрытае супрацоўніцтва з гітлераўцамі, не прымаў і не прымаю. Але той жа К. Езавітаў, не будзем забываць (і пра гэта расказвае А. Вабішчэвіч), вельмі шмат зрабіў у Латвіі, дзе жыў на той час, для развіцця беларускай адукацыі. Не кажучы ўжо пра адраджэнскую дзейнасць яго ў даваенны перыяд, калі і вершы пісаў, і падручнікі выдаваў, і займаўся актыўнай публіцыстычнай дзейнасцю.

Хіба не трэба пра гэта пісаць? Дарэчы, А. Вабішчэвіч і імкнецца быць як мага больш аб'ектыўным, хоць па некаторых пытаннях і мае асабістыя меркаванні. Гэта — яго права, як у рэшце рэшт права кожнага аўтара.

Сказанае тычыцца і нарыса "Генерал Булак-Балаховіч..." Так, ён у нечым памыляўся (а хто не памыляецца?!), ён нярэдка кідаўся з адной крайнасці ў другую (але ж не забудзем, у якім часе жыў!). Ён рабіў і тое, за што даравання няма і быць не можа (а хто заклікае рабіць з яго ікону?) Аднак нельга выкрасліць гэтага чалавека з гісторыі Беларусі. Усё ж Булак-Балаховіч быў неардынарнай асобай, ён хацеў лепшай долі Бацькаўшчыне.

Падсумоўваючы сказанае пра кнігу, не магу яшчэ раз не ўспомніць пра ўступны артыкул С. Барыса. Ён дае ўяўленне і пра зборнік у цэлым, і сведчыць, наколькі С. Барыс добра арыентуецца ў пытаннях, пра якія гаворыць, але... Магчыма, сам таго не заўважаючы, ён часам схільны да катэгарычнасці. Ніяк не магу пагадзіцца, што аднолькавы "гонар нашай нацыі" робіць дзейнасць народнага пісьменніка Васіля Быкава, народнага паэта Ніла Гілевіча, вядомых літаратараў Сяргея Грахоўскага і Рыгора Барадуліна (чамусьці Рыгор Іванавіч "перастаў" быць народным) і асобных падпалкоўнікаў запасу, прозвішчы якіх згадваюцца. Усё ж В. Быкаў ёсць В. Быкаў, Н. Гілевіч — Н. Гілевіч, С. Грахоўскі — С. Грахоўскі, Р. Барадулін — Р. Барадулін, а "падпалкоўнікі запасу"... Не будзем "кідацца" ацэнкамі тыпу "гонар нашай нацыі"...

І яшчэ. Не хацелася б, каб у вусны людзей, якія жылі даўно, укладваліся нашы сённяшнія ацэнкі і паняцці. На жаль, без гэтага не абышлося ў нарысе Г. Ланеўскага "Бітва народаў". Скажам, Вітаўт думае: "Усе сорак палкоў ідуць у гэтую **гістарычную бітву** за волю і Прымор'е пад яго княжацкім агульным штандарам". Не мог так думаць Вітаўт, не мог...

**А. АН-ЕВІЧ**

---

бульбу неяк пасадзілі. А назаўтра пайшлі адкопваць яе, бо ад чарговай бутэлькі так ачмурэлі, што захацелася на закусь... бульбачкі.

У Надзеі Русак ёсць прататып. З жанчынай, у якой у нечым падобны лёс, І. Шамякін, як расказваў у час нядаўняй сустрэчы, арганізаванай па просьбе настаўнікаў Астравецкага раёна, ён пазнаёміўся у Ждановічах. Яна была з чарнобыльскай зоны, разам з дзецьмі адпачывала ў санаторыі і не мела грошай на зваротную дарогу. Давялося дапамагаць, хадзіць па інстанцыях...

Справа, вядома, не ў тым, наколькі моцная дакументальная аснова ў аповесці. Рэч у іншым: І. Шамякін — дай Бог яму здароўя і далейшага творчага плёну! — як ніхто іншы назірае за сучасным жыццём. І глядзіць на яго позіркам неабыякавым. Хацеў бы заўважыць добрае, але яго так мала, што даводзіцца пісаць зусім не пра светлае. І "выкармкаў" партыі, якія лёгка прыстасаваліся да новых умоў, выкрываць. І паказваць гэткіх гаротніц, як Надзея Русак...

Так, яна гаротніца. Ворагу падобнага лёсу не пажадаеш. Але І. Шамякін невыпадкова назваў аповесць "Палеская мадонна". Надзея і гаротніца, але яна і ЖАНЧЫНА, якая здатна заставацца ёй, нягледзячы на ўсе суровыя выпрабаванні лёсу. А лёс не песціць яе. Можа, нават і таму так адбываецца, што Надзея не прывыкла хібіць сумленнем. І на кампрамісы, калі яны супярэчаць прынцыповасці, не ідзе. І такой была са школы. Іншая б павязала лёс з настаўнікам Іванам Аўцюком, які кахаў яе па-сапраўднаму, нават нарадзіліся ў іх пяшчотна-хмельныя сустрэчы. Тым больш, што Аўцюк і пасля таго, калі ў Надзі з будучым мужам Колькам Русаком "усё адбылося", прапаноўваў выходзіць за яго замуж. Аднак не магла зрабіць такі крок. І зусім не таму, што ўжо гэтак кахала Кольку. Сумленне не дазваляла. Сумленне не дазваляе ёй прыстасоўвацца і цяпер, калі колішні дырэктар саўгаса, а цяперашні прэзідэнт аграрнай фірмы, якога ўсе завуць Валяр'янавы, праяўляе самаўпраўства.

Сумленнасць Надзеі Русак, канечне ж, і ад прыроды, такія якасці з'яўляюцца, як кажуць, з малаком маці. Ды не толькі. Надзея — тое чыстае дзіця вёскі, якое з гадамі нездатна (на шчасце — няздатна!) растраціць лепшыя маральныя і душэўныя якасці. Таму і змагаецца яна не толькі за выжыванне сям'і, а і за праўду, у пошуках якой кіруецца ў сталіцу да самога Прэзідэнта. Да Прэзідэнта, зразумела, не трапіла, але спагадлівых людзей знайшла. І гэта надало Надзеі яшчэ большай упэўненасці, а разам з ёй і прыйшло ўсведамленне, што яшчэ не ўсё страчана, магчыма, настануць і лепшыя часіны.

Не быў бы аднак Шамякін Шамякіным, калі б абмежаваўся толькі глыбокім псіхалагічным аналізам учынкаў галоўнай гераіні, спасціжэннем яе ўнутранага свету. Разумеючы, наколькі цяжка сёння "пасадзіць" чытача нават за цікавую кнігу, як хочацца яму таго, што б заінтрыгавала, і ў сваёй новай аповесці не адмовіўся ад нечаканага сюжэтнага павароту. Прытым зрабіў гэта ўмела. Калі Надзея, дзякуючы выпадковай знаёмай, сустрэлася з галандскай сям'ёй і трапіла разам з імі ў рэстаран, да апошняга моманту не здагадваешся, што перад ёй звычайныя авантурысты, якія робяць бізнес на гандлі... дзецьмі. Праўдамі і няпраўдамі дамагаюцца згоды бацькоў, каб усынавіць хлопчыка ці дзяўчынку, ці ўзяць іх на выхаванне, а пасля — шукай ветру ў полі.

Праўда, выйсце з гэтай найскладанейшай сітуацыі адбываецца даволі лёгка. Не без дапамогі супрацоўнікаў ведамства, якое пільна стаіць на варце дзяржаўных інтарэсаў і інтарэсаў асобных грамадзян, авантурысты затрымліваюцца. А Надзея Русак вяртае сына. Расказвае пра гэта аўтар, як на маю думку, часам з нейкай лёгкасцю, а то і з усмешкай. Разумею, што тым самым І. Шамякін лішні раз хацеў падкрэсліць, што людзей, падобных да яго гераіні, нішто не можа, як кажуць, выкінуць з сядла. Тым не менш...

А ў цэлым аповесць засведчыла, што Іван Пятровіч па-ранейшаму застаецца творцам, здатным нязменна заставацца мастацкім летапісцам нашага хуткаплыннага часу. Менавіта мастацкім, які, чуйна рэагуючы на змены ў жыцці грамадства, аналізуе іх псіхалагічна-глыбока і пераканаўча.

Герой рамана 1. Капыловіча "Крумкач" (у "Полымі" змешчаны "старонкі рамана") знаёмы чытачу па папярэднім рамане пісьменніка "Пасынак" — Андрэй Цяжкі. Герой знаходзіцца ў такім стане, калі даводзіцца па сутнасці нанава пачынаць жыць — "скалечыўся так, што ходу назад няма, без... кавенек ні ўстаць, ні сесці". Асабістыя пакуты, перажыванні дапаўняюцца горам, якое абрынулася на родныя Андрэю мясціны, дзе моцнае ўздзеянне чарнобыльскай радыяцыі. І. Капыловіч паказвае свайго героя чалавекам, уважным да ўсяго, што адбываецца наўкола. Андрэй Цяжкі не проста пераадольвае самога сябе і пачынае выпроствацца душой, ён па-новаму прыглядаецца і да блізкіх яму людзей. Як жывуць яны і ці так жывуць, як трэба — пастаянна хвалюе яго.

Старонкі "Полымя" — вершы Ю. Свіркі і М. Бусько, а таксама падборка "Слуцкія паэткі", якія прадстаўляе У. Паўлаў, апавяданні М. Вайцяшонак і А. Давыдава, працяг "Дзённікаў" М. Танка, штрыхі да партрэта М. Сяднёва "Я прыйду з далёкай чужыны...", напісанага Л. Савік, і артыкул І. Цішчанкі "Вяршыні і спады", у якім расказваецца пра П. Шэйна — збіральніка, публікатара вусна-паэтычнай творчасці беларускага народа...

Парадаваў аповесцю "Ларыса, альбо Прыгоды аўтамабіліста" ў "Маладосці" Л. Левановіч. Праўда, з-за абмежаванасці аб'ёму часопіса прапануецца скарочаны варыянт. Але і таго, што змешчана, дастаткова, каб упэўніцца, што твор і на самай справе з'яўляецца, як дакляруе аўтар — эратычна філасофскай аповесцю. Ёсць у "Ларысе..." і мясціны, дзе па-майстэрску расказваецца пра вечна загадкавае пачуццё людзей, якія сустрэліся выпадкова. Ёсць і тыя развагі над жыццём, што выходзяць далёка за межы гаворкі пра будні, калі пэўным падзеям, выпадкам даецца адмоўная ці станоўчая ацэнка. А ўсё таму, што адзін з галоўных герояў твора вучоны-філолаг Ісачонак — асоба неардынарная. Ды і лёс яго вельмі непадобны на тых, хто прывык адседжвацца ў цішы будняў. Хоць і тыповы для лёсу іншадумцаў нядаўняга часу. Ісачонка абвінавацілі ў нацыяналізме, звольнілі з працы. А тут яшчэ памерла жонка, доўга хварэў сам. Канечне ж, у многім і збег абставін, але ці толькі ва ўсім прысутнічае свайго роду наканаванасць лёсу? Л. Левановіч і спрабуе адказ даць на гэтае пытанне. І гэта яму ўдаецца. Твор і вострасюжэтны, і псіхалагічна праўдзівы. Акурат тыя якасці, што нязменна прысутнічаюць і ў І. Шамякіна, а гэта заўсёды прываблівае чытача.

Багата ў "Маладосці" паэзіі — творы М. Мятліцкага, А. Зэкава, М. Курылы, А. Мазура, І. Бяльковіч. Сваёй шчырасцю, непасрэднасцю прываблІваюць вершы В. Шымука. Яны — светлыя, песенныя ў аснове, надзіва мілагучныя.

З публікацый "Нёмана" трэба вылучыць артыкул-даследаванне А. Літвіна "Казачы стан на Беларусі (1941—1944)". Гаворка пра казацкія фарміраванні, што дзейнічалі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, пра іх лёс, прычыну супрацоўніцтва казакоў з немцамі, пра марнасць спадзяванняў, што з дапамогай акупантаў казацтву ўдасца вярнуць тое, што яно страціла з прыходам савецкай улады.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

БЛІЦ-КРЫТЫКА

# ТАЯМНІЦА ЗЯЛЁНАГА КАНВЕРТА,

## або ТРАНСФАРМАЦЫІ АЎТАРА

***Сёння ў рубрыцы "Бліц-крытыка" друкуюцца меркаванні пра аповесць Уладзіміра Арлова "Краявід з ментолавым пахам" ("Крыніца", N 23). У абмеркаванні ўдзельнічалі: Валянціна Аксак, Валянцін Акудовіч, Уладзімір Арлоў, Алесь Бадак, Пятро Васючэнка, Артур Вольскі, Леанід Дранько-Майсюк, Галіна Каржанеўская, Францішак Эн, Ірына Шаўлякова, Алена Яскевіч.***

***Нагадваем, што парадак пералічэння прозвішчаў не супадае з парадкам друкавання адказаў. Па жаданні аўтара яго адказ падпісваецца.***

Уладзімір Арлоў калісьці захапляўся Генры Мілерам, што вельмі добра бачна па яго сібірскіх нататках у той жа "Крыніцы". Зараз ён, мабыць, абраў сабе кумірам кагосьці з заходніх містыкаў — што яму і нашай маладой літаратуры толькі на карысць. У апавяданні не проста свой настрой — там свая атмасфера, якая зацягвае чытача, як вір. У такіх выпадках не шукаеш недахопы, а проста суперажываеш герою (а значыць — і аўтару).

Твор успрымаецца неадназначна, але ў ім увесь Арлоў. Проста з Арлова ні ў якім разе нельга рабіць апостала. Бо ягонае добрае эстэцтва пры "апасталізме" пагражае перайсці ў літаратурны "глабізм".

Арлоў тут, як заўсёды, арыгінальны і верны сабе і свайму радаводу. Гэта да яго і прываблівае. Ён і працягвае тое, што пачынаў ягоны цёзка Караткевіч, і распрацоўвае сваю дзялянку. Кожная новая сустрэча з пісьменнікам абяцае і прыносіць новыя ўражанні, думкі, спадзяванні.

Эсэ, гістарычная раманістыка, вершаваныя творы Арлова належаць да эсэістычнага напрамку, які больш арганічна распрацоўваецца на нацыянальнай глебе. І гэта абумоўлівае зацікаўленасць пісьменніка айчыннай гісторыяй. Ён плённа працягвае традыцыі Караткевіча — стварэнне цэласнай свядомасці беларуса, дзе сучаснасць і сівая мінуўшчына арганічна спалучаюцца.

Арлова апошнім часам так шмат — у кнігах, газетах, саюзах, ПЭН-цэнтрах, розных краінах, — што ў гэтым тэксце ён вырашыў часова знікнуць. У "Краявідзе..." — нарэшце — шмат ментолавага паху і зусім няма Арлова. Напэўна, гэта майстэрства.

Эпідэмію знікненняў запачаткаваў Акудовіч, працягнуў Арлоў.

Чакаем важкага слова ад Прэзідэнта.

**Францішак ЭН**

Згаданы ў назве ментолавы пах я адразу адчуў. Кожны, хто адчуў яго таксама, узгадае нешта асабістае. Кожны чытач пройдзе праз свой пакой з ментолавым пахам.

Гэта адна з лепшых аповесцей Арлова. Мусіць, у гэтым творы аўтар упершыню адчуў сябе больш паэтам, чым празаікам. Ён паспрабаваў стварыць кароткі гатычны раман з адпаведнай атрыбутыкай: невядомасць, страхі, мудрагелісты сюжэт. Гэта не класічны гатычны раман, які ўзнік як рэакцыя на рацыяналізм, на тое, што зразумела, але такія моманты ў аповесці ёсць.

Аповесць не прачытаў, таму што столькі апошнім часам Арлова было ў "Крыніцы", што ад яго трэба адпачыць. Я з тых чытачоў, якім трэба ўсіх аўтараў пакрыху.

Бліскучая аповесць з бліскуча няўдалым фіналам.

Сам я "Краявід з ментолавым пахам" не чытаў, але ходзяць упартыя чуткі, што яго напісаў зусім не Арлоў, а нехта іншы, хто прыслаў яму тэкст у нейкім зялёным канверце.

Думаю, што сярод беларускіх чытачак усчынецца спрэчка адносна правобразаў новай аповесці Уладзіміра Арлова. Усе яны памыляцца, шукаючы рэальную зямную жанчыну, аднак такая недзе, пэўна, усё ж існуе...

# ПАПАЎНЕННЕ Ў "БЕЛАРУСКІМ КНІГАЗБОРЫ"

У гэтай унікальнай серыі, распрацаванай у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі, з'явіўся чарговы том. Пачатак выданню быў пакладзены летась, калі, як вядома, чытачы атрымалі "Выбраныя творы" Яна Чачота.

Адкрываецца том артыкулам народнага паэта Беларусі Н. Гілевіча "Страцім-лебедзь беларускай паэзіі", што, па сутнасці, успрымаецца міні-манаграфіяй. Аўтар разглядае творчасць М. Багдановіча на фоне тагачаснага жыцця беларускага народа: "Гэта была яшчэ раніца, ранняя раніца, калі толькі пачынае брацца на дзень, калі сонца недзе далёка за лясамі, але там, дзе яно будзе ўзыходзіць, ужо заружовіўся і пасвятлеў небакрай. Гэта была ранняя раніца маладой беларускай літаратуры, што ў пачатку новага веку на змрочным небе тагачаснага грамадскага жыцця ўспыхвала і разгаралася сваімі першымі яркімі зоркамі — прадвесніцамі блізкага світання". Прачытвае яе не толькі ў кантэксце беларускай літаратуры: "У яго было дасканалае пачуццё меры і суразмернасці, і ў гэтых адносінах з усіх беларускіх паэтаў мінулага і сучаснага ён найбольш блізкі і роднасны Пушкіну". Глядзіць, як кажуць, у перспектыву, успрымаючы напісанае М. Багдановічам, як "творчасць, якая чым далей адыходзіць ад журботнага крымскага маю, тым больш маладзее. Творчасць, якая, ад нешырокага калісьці кола чытачоў на Бацькаўшчыне, няйначай як наважылася апаясаць сваім чароўным вянком увесь зямны шар — прарасці цвятком радзімы васілька на ўсіх яго паралелях і мерыдыянах. Творчасць, у якой вялікая будучыня".

Як прадмова падаецца і артыкул А. Бяляцкага "Жыццёвая сцяжына паэта", у якім не абыдзены ўвагай біяграфічныя моманты, але таксама даецца і ацэнка творчасці М. Багдановіча.

Укладальнікі і аўтары каментарыяў С. Забродская, Э. Золава, Т. Строева, Л. Хрышчановіч, А. Шамякіна парупіліся, каб чытач, які не набыў трохтомны Збор твораў М. Багдановіча, тым не менш мог мець заўсёды пад рукой тое з мастакоўскай спадчыны Максіма-Кніжніка, што варта найпершай увагі.

На першым плане — паэзія, аб'яднаная ў раздзелы "Вершы 1908—1909 гадоў", "Вянок. 1909—1912", "Творы, што прызначаліся для "Вянка", "Вершы 1910—1917", "Пераклады і наследаванні". Сюды ўвайшлі і творы, напісаныя М. Багдановічам па-руску, чарнавыя накіды, творы невядомых гадоў.

Змястоўны раздзел "Мастацкая проза": "Музыка", "Апокрыф", "Мадонна", "Вясной", "Апавяданне аб іконніку і залатару", "Шаман", "Марына", "Из летних впечатлений", "Гарадок", "Сярод глухой пушчы..."

Прадстаўлены літаратурна-крытычныя артыкулы, публіцыстыка, эпісталярная спадчына.

Пры падрыхтоўцы "Выбраных твораў" выкарыстаны вопыт, набыты раней. Прынамсі, калі рыхтаваліся выпускі Збору твораў М. Багдановіча. Не абыдзена ўвагай і кніга "Вянок паэтычнай спадчыны", выпушчаная ў 1960 годзе выдавецтвам "Бацькаўшчына" (Нью-Йорк—Мюнхен) пад рэдакцыяй Ан. Адамовіча і С. Станкевіча, у якую былі ўключаны невядомыя раней матэрыялы з прыватных архіваў.

А набыць кнігу М. Багдановіча "Выбраныя творы" можна ў кнігарнях і ў Міжнародным фондзе "Беларускі кнігазбор" (Мінск, Фрунзе, 5, Дом літаратара).

**В. ЛЯШЧЭНЯ**

# "ЁН І ЯНА" —

так каротка і ўцямна называецца першая кніга Юрыя Кур'яновіча, выдадзеная Мінскай вытворча-камерцыйнай фірмай "Экаўнт". Аўтар гэтай кніжкі прыйшоў у літаратуру параўнальна нядаўна, але чытачам "Чырвонай змены" і "Першацвета" яго імя вядомае. Ю. Кур'яновіч — мінчанін, нарадзіўся у 1968 годзе, скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі, працаваў оперупаўнаважаным аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Заводскага РАУС г. Мінска, зараз займаецца прадпрымальніцкай дзейнасцю.

Змест кнігі склала рамантычная проза, а дакладней — своеасаблівыя замалёўкі з жыцця, героям якіх уласцівы пошукі спасціжэння Быцця, Кахання, Бога. Непасрэднасць светаўспрымання, псіхалагічна дакладная перадача развагі, пошукаў, а часам і роспачнасці чалавека найперш вызначаюць творчасць празаіка.

Акрамя таго, Юры Кур'яновіч — мастак, ягоная кніга багата аздоблена аўтарскімі малюнкамі і застаўкамі.

**Віктар ЖЫБУЛЬ**

## Галіна ТВАРАНОВІЧ



# "АБРЫСЫ, КОЛЕРЫ, НАСТРОІ..."

●

*Бунтоўнай стыхіі*
*мець бы ўсё разам —*
*і квадру, і поўню, і маладзік.*
*Прагным глытком асушыць*
*гарачую чару да самага дна.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Завязь сыплецца долу —*
*студзіць паспешлівасць*
*р а с ч а р а в а н н е м.*

●

М. БУШЧЫКУ

*Абрысы, колеры, настроі...*
*Усе цуды горнае Айчыны*
*Штодня на споведзі мірской*
*Ты, пранікліві Майстра, мусіш*
*Пеставаць і спеліць моцнаю рукой...*

●

*Беламу наліву,*
*шчэ неналітаму,*
*надта рупіцца*
*гучна скочыць*
*на дол утравелы.*

*Вецер кранае*
*галіну натомленую,*
*а жанчыне,*
*журбой напоенай,*
*адгукаецца —*
*л ё с а п а д.*

### На кладах

*Да крыжоў, да грудкоў,*
*шчымліва прывечаных*
*стужкамі й фартушкамі,*
*спрадвеку прышчэплена*
*спелая в о с е н ь.*

●

*А наш агульны Храм —*
*яшчэ ў рыштаваннях.*
*І не спяшаюць выканаўцы...*
*Цярпення стане —*
*дачакацца ўваходзін нам?..*

●

*Красуе без меры —*
*ашуканка-чужына.*
*Разварушаны грунт*
*і аддадзены сілы.*
*Дранцвее гародчык*
*пад водарам п'янкім.*

*У нязваные госці,*
*раптоўнае кветкі —*
*не шукайма спагады!*

●

*Пяшчотная, даўкая прага*
*няпэўнага ў сілах прызнання*
*спатолі ў водгуку палкім*
*жадае на строме*
*свайго пачуцця.*

●

*Мой ціхі дабрадзею,*
*ну што сказаць*
*у а п р а ў д а н н е*
*сціплае пяшчоце,*
*як не спраўдзіла надзей*
*свае і іншыя душы?..*
*Ну што сказаць...*

●

*Непрыдуманы...*
*недасягальны...*
*Пяшчоты глыток*
*шчырая ластаўка ў дзюбцы*
*мо шчэ калі прынясе...*
*па нясмелай маёй...*
*па нашай вясне...*
*прынясе...*

●

Я. ЧЫКВІНУ

*Мой самотны паэце,*
*У ліловай прасторы ліста —*
*Шчырага пошуку праца.*
*Вольныя парасткі існага*
*Пакутай спапеленых глеб*
*Жывыя крыніцы — знаходзяць.*

●

Гаяне Дж-Н

*Пад пломаю вірлівых парасонаў —*
*ранняю парою сакура цвіце...*
*Слязу самотнай Чыо-Чыо-Сан*
*на згорнутых пялёстках вішні*
*з падваконня — мая фіялка сцеражэ...*

●

*Да жыхароў*
*двух дамкоў —*
*пабудоў ужо ў гадах,*
*павернутых*
*ганкам на ўсход,*
*падсуседзіцца ранкам*
*як хочацца...*

*Зайздрошчу старым*
*яблыні й грушы.*
*Шчаслівыя —*
*спевам і кветам*
*штогод*
*выказваюць свету сябе —*
*наноў.*

## Генадзь АЎЛАСЕНКА



### 26 красавіка 1986 года

*Вясновая ноч*
*над зямлёю пяшчотна плыла.*
*І раптам зямля задрыжала,*
*працятая болем.*
*Нябачна,*
*нячутна,*
*бяда папаўзла па-над полем,*
*Па вёсках,*
*па сэрцах,*
*па лёсах людскіх папаўзла...*
*Бяда напаўзала*
*няўмольная,*
*быццам вайна,*
*Яна не страляла,*
*але і жыцця не давала.*
*Яна забівала,*
*Павольна,*
*ды ўсё ж забівала.*
*Нябачна,*
*нячутна,*
*ды ўсё ж забівала яна!*
*Якое праклянцце*
*на нашым народзе ляжыць?!*
*Ну хто нас,*
*за што нас*
*так жорстка,*
*так страшна карае?!*
*Паўзе па народзе бяда*
*і даніну збірае...*
*Па ўсёй Беларусі*
*крыжы,*
*і крыжы,*
*і крыжы...*

### Калі жыццё выходзіць з берагоў...

*Калі жыццё выходзіць з берагоў,*
*Нібы рака паводкаю бурлівай,*
*Чаўнамі лёсаў*
*круціць вір імклівы,*
*Мы ўспамінаем*
*пра былых багоў.*

*І просім зноўку завітаць да нас.*
*Багоў*
*малітвы нашы велічаюць.*
*І чым хутчэй*
*чаўны ў віры мільгаюць,*
*Тым гарачэй*
*малельны наш экстаз.*

*Але маўчаць насуплена багі:*
*Яны не церпяць фальшу і падману.*

*І берагі*
*не бачны з-за туману.*
*Мінулага*
*пустыя*
*берагі.*

### Акупацыя

*— Такія справы...*
*Кепска, браце...*
*— Дзе ж гаспадыня?*
*— Жыта жне.*
*...Сядзяць старыя*
*ў цёмнай хаце.*
*Адна гаворка — аб вайне.*
*Ды як аб ёй не размаўляці,*
*Калі яна з усіх бакоў.*
*Сядзяць старыя ў цёмнай хаце.*
*Суседзі. Двое сваякоў.*
*Сыны на фронце. Хоць бы вестка.*
*Жывыя, можа. Можа, не...*
*Адна ў Нямеччыне нявестка,*
*Другая ў полі жыта жне.*
*Сядзяць старыя ў цёмнай хаце,*
*Няспешна гутарка ідзе.*
*— Такія справы... Кепска, браце...*
*— Хто ж ведаў аб такой бядзе.*
*Ну трэба ж, гэткая навала.*
*— Эх, сваце, сваце... Не кажы.*
*І тая ўлада рабавала,*
*А зараз...*
*Божа беражы!*
*Бяруць і нават не пытаюць*
*Свае, чужыя, ўсе грабуць.*
*А тут унукі падрастаюць.*
*Чым іх карміць?*
*У што абуць?*
*Ну што за час такі паганы?!*
*Прыедуць немцы, п'юць, жаруць...*
*А ноччу прыйдуць партызаны*
*І зноў як ліпку абдзяруць.*
*На дармаўшчыну ўсяк ахвочы...*
*Ляцяць, бы тыя крумкачы.*
*Пайсці б, каб не глядзелі вочы,*
*Ды ад зямлі куды ўцячы?!*
*Сыны на фронце... Хоць бы вестка.*
*— Эх, сваце, сваце... Ну, да дна!*
*— Унук хварэе,*
*А нявестка*
*Там, у Нямеччыне, адна.*
*Была аблава і злавілі...*
*І хоць бы ведаць, як і дзе...*
*Ну чым мы Бога прагнявілі?!*
*За што пакінуў у бядзе?!*
*Такое гора навакола...*
*— Што гора... Гора як каму...*
*Вунь твой сусед, крывы Мікола,*
*Стаў паліцаем, што яму.*
*І так дурны, а як нап'ецца...*
*Такому зараз чым не жыць?*
*— Эх, сваце... Гэта так здаецца:*
*Ён зранку п'е, а ноч дрыжыць.*
*— Ну, па апошняй, сват Ігнаце.*
*Там засталося шчэ на раз.*

*...Сядзяць старыя ў цёмнай хаце*
*Паўзе над імі змрочны час...*
*Жахлівы час па-над прасторай*
*Самотнай роднае зямлі.*

*— Эх, сваце, сваце, сваце...*
*Гора... Гора...*
*Ну, забягай яшчэ калі.*

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

# АНТОШКА



АПАВЯДАННЕ

НЕ ЛЮБЛЮ вялікіх і яркіх карцін.

У мастацкім музеі я ўпадабала невялічкае палатно расійскага мастака Ге "Пацалунак Юды". Хутчэй за ўсё, не карціну, а эцюд. Пэўна, і спадабалася мне менавіта недагаворанасць, незавершанасць... Леанарда да Вінчы нездарма раіў маладым мастакам разглядаць узоры плесні на сцяне. Гадзінамі стаяла я і глядзела на прывіднае месячнае святло Гефсіманскага саду, залацістую лёгкую постаць Ісуса і прыпаўшую да яе халодна-зеленаватую фігуру Юды — быццам светлая палаючая свечка, і спаўзае з яе змяшаны з попелам нагар...

Гэта была мая таямніца. Насуперак нуднай працы, вечнаму недахопу грошай, модным вясёлым кампаніям, у якія ці то мяне не прымалі, ці то ад "гонару бедных" не йшла сама... Кожную суботу я прыязджала ў музей, на адным савецкім дэтэктыве на гэтую тэму выказваецца ўладальніца прыватнай крамы капелюшоў. Маўляў, дваццаць год прадае капялюшыкі дамам, і ніводная жанчына не выбірала капялюшык без сяброўкі, і ніводная сяброўка не дала правільнай парады. А сур'ёзна? Калі ў жанчыны з'яўляецца сям'я — муж, дзеці, усе яе знаёмствы аўтаматычна адыходзяць (павінны адыходзіць) на другі план. Пэўна, тут дзейнічае інстынкт, які і робіць жанчыну захавальніцай і выратавальніцай чалавецтва. А вось мужчыны так любяць і пасля жаніцьбы падтрымліваць "сапраўдную мужчынскую дружбу" і даказваць верным сябрукам, што жонка яго не "акруціла" і не "ўзяла пад абцас", і ўвогуле ён — гаспадар свайго жыцця... І няхай "яна" хоць лопне са злосці са сваімі сумнымі хатнімі справамі, а рушыць святое не дамо! (А святое, між пісаць вершы, Аксана, галоўная наша сувязная, складзе кнігу прадказанняў. Мы бяром з сабою музычныя інструменты, будзем сачыняць музыку! Дзеці паедуць з намі! Вітаўт наш вырасце гарманічным чалавекам!

Антошка шчабятала, а я з жахам глядзела на яе круглы жывоцік: месяцаў шэсць будзе, пэўна... Перахапіўшы мой позірк, Антошка жыццярадасна паведаміла, што яе Хведар чытае спецыяльную літаратуру, каб прыняць роды ў палатцы...

Пра Ге і "Пацалунак Юды" я нават не заікнулася...

Недзе праз год Антошка аб'явілася зноў.

— Ну, з кім цябе віншаваць — хлопчык? Дзяўчынка?

— А, ведаеш, нічога не атрымалася... Пэўна, так трэба...

пазваніла Антошка.

— Ну, прывітанне! Ледзь знайшла твой новы тэлефон! А мы ўжо тут!

Як высветлілася, "рыжыкі" зноў туляліся па розных гарадскіх кутах. "Свой Дом" давялося пакінуць: старшыня беднага палескага калгаса нездарма прыняў на адказную працу гарадскіх "жоўтадзюбікаў". Усё, што Антошцы з мужыком удалося зарабіць на "цёплых" пасадах, давялося папрадаваць, каб пагасіць невядома скуль узніклую недастачу. А пасля іх яшчэ ледзь не "ўпяклі" ў турму за нечыя фінансавыя фокусы, што рабіліся за іх спінамі (можа, такія разявакі і заслугоўвалі). Хведар паспрабаваў з уласцівай яму грунтоўнасцю дабіцца "праўды": збіраў нейкія паперкі, ездзіў па раённым і абласным начальстве, у рэдакцыі і г. д. Нарэшце сустрэўся ў цёмным месцы з купкай прафесійна "накачаных" хуліганаў і атрымаў сваю "праўду", ды так, што ледзь дадому дапоўз... Хуліганаў, канечне, ніхто не знайшоў, і ўвогуле, міліцыянт сказаў Антошцы: "А можа, гэта ты сама мужыка пабіла з рэўнасці..."

Карацей, цяпер Антошка пляла макрамэ і вязала насценныя дыванкі для аднаго прыватнага прадпрыемства, а Хведар, уздзеўшы апошні прыстойны касцюм, хадзіў па фірмах у пошках працы... Вітаўта выхоўвала Антошкіна маці, якая раз і назаўсёды забараніла зяцю з'яўляцца на парозе яе кватэры і нават тэлефанаваць... І побач з гэтым — народны тэатр, фларыстыка, астралогія... І клуб беларуска-індыйскай дружбы.

— Давай сустрэнемся ля Ге! Сто гадоў не бачыліся...

спатканне з Ге, з мастацтвам, з Вечнасцю... Божа, як я хвалявалася! Як гарэлі шчокі! Хіба гэта можна было параўнаць з дыскатэчным каханнем маіх равесніц?

Аднойчы стаяла я перад сваёй улюбёнай карцінай і цешылася ўласнай выключнасцю. Побач са мною спынілася худзенькая рудая дзяўчынка з вострым носікам у рабацінках і вялікім, усмешлівым ротам. Адзенне, як і ў мяне, "з прэтэнзіяй на мастацкасць": пастэльныя колеры, вязаны шалік, самаробная біжутэрыя — скура, дрэва, макрамэ... Незнаёмка захоплена пазірала на здрадны пацалунак Юды — пасля я даведалася, што гэтак жа захоплена яна ўмее пазіраць на ўсе з'явы жыцця.

— Якая таямнічая карціна!

Я скасавурылася на рудую энтузіястку. Слоўца за слоўца, разгаварыліся... Родная душа! А як завуць?

— Антошка!

Убачыўшы маё здзіўленне, засмяялася і растлумачыла:

— Ну, на самай справе — Антаніна... Але ўсё-ткі Антошка!

І зноў звонкі смех, і рабацінкі, здаецца, таксама рассмяяліся, рассыпаліся звонкім золатам...

Лёс Антошкі быў падобны на мой. Гэтаксама спрабавала сёлета паступіць у інстытут, не паступіла — і цяпер працавала "на вытворчасці" ці то лабаранткай, ці то чарцёжніцай... Праца была не больш, чым "служба", а дом — не больш, чым месцам пражывання: бацькі прысвяцілі жыццё хворай старэйшай сястры Антошкі. Але задзірыстая, абаяльная энергія маёй новай знаёмай знаходзіла сабе выйсце ў наведванні не толькі мастацкага музея, але ўсіх імпрэз, што адбываліся ў горадзе, а таксама: гуртко макрамэ, фларыстыкі, вязання, курсаў ангельскай мовы і студыі бальных танцаў... І ўсё — з усмешкай і захопленасцю...

Дзе мы толькі не пабывалі з Антошкай! У цырку яна пацягнула мяне ў службовы ўваход і за пятнаццаць хвілін антракта пазнаёмілася з джыгітамі і іх коньмі, атрымала ад маленькага чарнявага наездніка яблык і скарміла беламу каню сваё марожанае... Праз знаёмых знаёмых даставала Антошка запрашэнні на прэзентацыі тэатральных спектакляў і выстаў, у мастакоўскія майстэрні і дыскусійныя клубы. Мы пачалі хадзіць у турпаходы і спазналі свет людзей, паглынутых стыхіяй Здаровага Ладу Жыцця — там богам быў Поль Брэг, а евангельскімі запаветамі — раздзельнае харчаванне і галаданне.

Званіў тэлефон, я падымала трубку і чула аптымістычны заклік:

— Сустракаемся каля "Пацалунка Юды"! У пяць гадзін!

Колькі ўсяго напісана і нагаворана пра жаночае сяброўства! Помніцца, у тым, і рушыцца...)

Я паступіла ў той інстытут, які хацела, у чужым вялікім горадзе. Антошку ў яе запаветны тэатральна-мастацкі не прынялі, і бацькі "паступілі" яе ў малацікавую навучальную ўстанову вытворчага профілю. Усё радзей я чула ў сваё таксама нячастыя наезды звонкагалосыя запрашэнні сустрэцца, і спатканні ля Ге амаль перарваліся... Нарэшце я патэлефанавала Антошцы, каб запрасіць яе на сваё вяселле...

— Ведаеш, — прамовіла Антошка такім разгубленым і вінаватым голасам, — а я замужам... Ужо тыдзень... Тут такія абставіны... Не ведаю, ці атрымаецца прыйсці... Прабач.

Недзе праз паўгода Антошка пазваніла і коратка паведаміла, што нарадзіла сына, якога назвалі Вітаўтам, што жывуць яны то ў яе бацькоў, то ў бацькоў мужа — былога аднакурсніка. А калі адбывалася чарговае непаразуменне між старэйшым і малодшым пакаленнямі, і рэчы маладых аказваліся выстаўленымі на лесвічную пляцоўку, Антошка казала: "Пэўна, так трэба..." — і перадыслацыроўвалася са сваёй сям'ёй да тых бацькоў, якія выганялі іх мінулы раз. Мусіць, на адносіны пакаленняў уплывала і тая акалічнасць, што Антошка з мужам ніяк не маглі ўладкавацца на працу. Але самае галоўнае — яна ўдвох іграюць у народным тэатры, і ў іх маса творчых планаў, і ўвогуле — жыццё цудоўнае!

Сустрэнемся каля Ге!

Прайшло гады два. Антошка зусім знікла з майго жыцця. Раптам я сустрэла яе ў адной выпадковай для мяне кампаніі, як я іх называю, "будыстаўёгістаў". З Антошкай быў яе муж, Хведар, як высветлілася, дакладная яе копія, толькі на паўметра вышэйшы. Абодва "рыжыкі" з захоплена-ўзнёслымі тварамі пагойдваліся ў рытме медытатыўнай музыкі і спявалі мантры. Антошка пазнала мяне і зараз жа, прысеўшы на бакавіну майго фатэля, абрынула сваю "інфармацыю". Яны з Хведарам толькі цяпер знайшлі сэнс жыцця, пазнаёміліся з касмічнымі пасрэднікамі і кожны вечар праводзяць сеансы сувязі з вышэйшым настаўнікам (як я зразумела, чамусьці з дапамогай звычайнай спірытычнай дошкі). Прычым гэты настаўнік загадаў усёй іхняй кампаніі неадкладна адпраўляцца на натуральнае жыццё ў сакральнае месца, каб выканаць касмічную місію. Месца, адведзенае для выканання місіі, было на Камчатцы.

— Мы ад'язджаем праз два тыдні! Будзем там жыць у палатках, вырошчваць сабе ежу і здабываць агонь! — захліпалася Антошка. — Федзя пачне

Голас крыху здрыгануўся, і зноў — інфармацыя, інфармацыя... Уладкаваліся ў прыватны лялечны тэатр, ездзяць па школах, дзіцячых садках... Антошка атрымала ролі Бабы Ягі і Лісічкі, усё цудоўна, толькі з лялькамі цяжка ўпраўляцца... Далей высветлілася, што жывуць пакуль на дачы сяброў — свякруха са свёкрам выгналі "прыпыленую" нявестку, а Антошкіны бацькі з такой жа асалодай спусцілі з лесвіцы "вальтанутага" зяця.

— Збіраемся ехаць жыць у вёску, — "парадавала" мяне Антошка. — Праўда, мы ніколі раней не жылі ў вёсцы, але я адчуваю, наша карма — працаваць на зямлі...

Прайшоў яшчэ год. За гэты час прыватны лялечны тэатр, у якім працавалі "рыжыкі", прагарэў, і яны сапраўды паехалі на вёску і некалькі месяцаў спрабавалі нешта вырасціць на запушчаным гародзе пакінутай хаты і нават завялі курэй. Малы Вітаўт гадаваўся ў адной з бабуль. Пасля, як я даведалася з рэдкіх званкоў Антошкі, спрабавалі яны жыць з мужам паасобку — кожны ў сваіх бацькоў. Але, пэўна, звёў іх лёс назаўжды — не змаглі... Спрабавалі працаваць па сваіх інжынерскіх спецыяльнасцях — ды ўсё ненадоўга... Ездзілі ў Сібір збіраць кедравыя арэшкі — на дарогу патрацілі болей, чым зарабілі... Закупілі "тавару" і павезлі за мяжу — у памежжы нарваліся на банду рэкеціраў, якія тавар "сканфіскавалі", заплаціўшы кухталямі ды мацюкамі. Спрабавалі нават праз ваенкамат завербавацца ў якуюсьці "гарачую кропку"... Але ж і ў ваенкамаце ёсць недурныя людзі... Атабарыліся нарэшце ў бедным палескім калгасе.

— Ты абавязкова павінна да нас прыехаць! — захоплена крычала Антошка на тым канцы тэлефоннага провада. — Якія тут месцішчы! Адчуваеш прысутнасць Бога! У нас ёсць свой Дом! Хопіць месца ўсім!

І — як заўсёды: творчыя планы — збіраюцца ставіць спектакль, сачыняюць музыку, пішуць вершы...

Маладосць аблятае, як лісты з дрэва. Вось, здаецца, яно ўсё яшчэ зялёнае і трапяткое, а лісты зрабіліся жорсткімі і запыленымі, а вось першая жаўцізна кранула вершаліну... Зляцеў ліст, другі... Шамацяць восеньскае золата... Здаецца, нічога не мяняецца, а шаты з кожнай раніцай усё празрысцей, усё цішэй, і вось паказаўся голы пруток галінкі... Аднойчы зірнеш за вакно — а там на месцы прыгажуні-бярозкі толькі голы чорны каркас, такі безабаронны і непрывабны...

Неўзабаве пасля таго, як мы з мужам і дзецьмі пераехалі на новую кватэру,

У суботу я пакінула дзяцей на мужа і паехала ў мастацкі музей. Чамусьці захацелася апранацца асабліва добра і "па-мастацку". Мой макіяж, колеравая гармонія адзежы, парфума былі... ну, не бездакорныя, але на вышэйшым узроўні маіх сціплых інтэлігенцкіх магчымасцяў. Я надзела нават адзіны залаты пярсцёнак з аквамарынам, які надзявала ўсяго два ці тры разы ў асабліва ўрачыстых выпадках. І вось яно, хваляванне прамінулага юнацтва, чырвань кідаецца ў шчокі, вочы, напэўна ж, праменяцца... Зараз, як пятнаццаць гадоў назад, спатканне з Ге... Месячны пацалунак Юды і — Антошка..

На версе лесвіцы да асноўнай экспазіцыі, каля тоўстай мармуровай калоны, шарэла худзенькая постаць — Антошка? Рудыя валасы ў неахайным вузельчыку, вочы — у сетцы дробных маршчынак, самавязаная светла-зялёная сукенка, а каб не ведаць, што заношаная — зверху шаль, звязаны з тоўстых бэжавых нітак...

А голас — як і раней, звонкі і захоплены.

— Ну, прывітанне! Як цудоўна, што мы сустрэліся! Сёння спрыяльны дзень для аддачы кармічных даўгоў! Рушым хутчэй на наша месца! Я без цябе вырашыла не ісці — перажывём разам момант пазнавання!

Мы пайшлі па залах. Але чамусьці на месцы нашай таямніцы вісела яркая жанравая карцінка з жыцця рускіх трацціраў. Я разгубілася, а Антошка пачала бегаць па зале, пасля падышла да бабулькі-наглядчыцы... І — вось ён, Ге... Ці не? Карціну, якая раней знаходзілася ў прыцемку, перавесілі ў цэнтр ярка асветленага планшэта. У дадатак яе, як і астатнія, пакрылі тоўстым слоем лаку. Фарбы заззялі, бессаромна раскрыліся, знікла назаўсёды таямнічае месячнае святло, і прывіднасць постацяў, і больш не перахоплівала горла ад таго, што вось Ён, такі светлы і крыху сумны, аддаецца на пакуты, і прыліп да Яго пляча з пацалункам-укусам зялёны Юда, а Пётр апускае меч, таму што нельга аддаляць такую смерць...

Рама была шырокая і шчодра вызалачаная. Сціскала яна ў сваіх прамакутных абдоймах звычайны эцюд, неахайны мастакоўскі накід... На вочы ўсё-ткі навярнуліся слёзы, але не ад узрушэння, а ад крыўды... Забойцы!

Я нічога не сказала Антошцы. Мне здалося, што такі ўдар лепей перанесці моўчкі... Але Антошка загаварыла сама, усё тым жа звонкім, захопленым голасам:

— А карціна яшчэ прыгажэй зрабілася! Паглядзі, фарбы якія яркія! І святла тут больш! Бліщчыць як!.. Ну, пойдзем уніз, там выстава нямецкай гравюры...

## ШКОЛЬНАЯ "БАТЛЕЙКА"



**Некалькі гадоў таму ў Салігорскай дзіцячай мастацкай школе па ініцыятыве намесніка дырэктара па навучальнай частцы Ларысы Пятроўны Гадалавай было ўведзена вывучэнне беларускай народнай культуры. Навучэнцы пачалі вывучаць беларускі касцюм, народныя гульні, абрады, легенды. А каб тэорыя падмацоўвалася практыкай, было вырашана стварыць школьны тэатр "Батлейка". Практычную дапамогу аказалі школе ў Рэспубліканскім цэнтры гульні і цацкі, дзе былі вывучаны прынцыпы вырабу лялек і набыты вопыт тэатра "Батлейка".**

**Выкладчык курса беларускай культуры Ніна Уладзіміраўна Казлова падабрала неабходны для "Батлейкі" рэпертуар, у які ўвайшлі як класічныя батлеечныя спектаклі ("Раство Хрыстова" і іншыя), так і пастаноўкі на фальклорныя тэмы. Лялькі рабілі ўсёй школай. І вельмі хутка тэатр пачаў выступаць як у самой школе, так і ў дзіцячых садах горада, дзіцячым доме, на гарадскіх святах. Школьны тэатр "Батлейка" прыняў удзел у конкурсе "Сям'я і школа" і стала адным з яго пераможцаў. Атрымаўшы за прызавое месца прэмію, тэатр здолеў набыць неабходнае абсталяванне і стварыць школьны музей лялек, у якім сёння ўжо дзесяткі экземпляраў. Відаць, гэта адзіны ў рэспубліцы такі музей лялек.**

*На здымку: удзельнікі школьнага тэатра "Батлейка" Наташа Верабей і Марына Баткаева.*

**Яўген КАЗЮЛЯ,**
**кар. БЕЛТА**

## "РЫГОРКА — ЯСНАЯ ЗОРКА"



**— новая пастаноўка галоўнага рэжысёра Гомельскага абласнога драматычнага тэатра Уладзіміра Караткевіча, прысвечаная дзецям. Гэта казка паказана 35 разоў, паглядзелі яе больш за 20 тысяч юных гамяльчан. Гледачамі сталі і выхаванцы дзіцячых дамоў, школ-інтэрнатаў, дзеці з малазабяспечаных сем'яў.**

*На здымку: фрагмент казкі.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

***Калі ўсё дрэнна так,***
***што хочацца лезці на сцяну,***
***калі ты адчуваеш***
***сябе скончаным небаракам,***
***калі нават няма слёз***
***паплакаць — застаецца толькі***
***смяяцца. Смех праз слёзы —***
***вось што такое блюз.***
***Калі ва ўсім белым свеце няма***
***прытулку і ты туляешся***
***па жыцці, нібыта перакаці-поле***
***ці хучы-кучы мэн, і не канаеш***
***пад градам нягод, —***
***ты ведаеш, як нараджаецца***
***гэтая музыка.***

# ЖЫВЕ БЛЮЗ!

БЛЮЗ, як вядома, вынайшлі паўночнаамерыканскія негры. Яшчэ да 60-х гадоў нашага стагоддзя лічылася, што гэты жанр — выключна "чорны", і ніхто іншы тут нічога прынцыпова новага ўжо не створыць. Аднак найвыдатныя музыканты залатога веку рока — "Rolling Stones", "Doors", Janis Joplin, "Led Zeppelin" і інш. пераканалі свет, што БЛЮЗ належыць усяму чалавецтву. Ён кранае сэрцы ўсіх: прагматычных амерыканцаў і снабісцкіх ангельцаў, легкадумных французаў і самураістых японцаў. Блюз спяваюць паўсюль, дзе ёсць жывыя душы. Дзе ёсць мужнасць жыць далей, нягледзячы на пакуты і страты. Ён вучыць нас з ironіяй ставіцца да краху ўласных амбіцый і недарэчнасцяў нашага шалёнага стагоддзя. Блюз — гэта пра нас усіх. Блюз — гэта пра кожнага з нас. І кожны спявае тыя дванаццаць тактаў ды тры акорды на свой непаўторны лад.

Натуральна, блюз шануюць і "самыя белыя" ў свеце людзі — беларусы. Сведчанне таму — Першы ўсебеларускі, а потым і Першы міжнародны фестывалі блюз-рока, што прайшлі ў сталічным кінатэатры "Масква". І хаця заўчасна яшчэ разважаць пра "наватарства беларускай блюзавай школы", фестывалі выявілі, што ў нас ёсць сапраўдныя майстры жанру: Леанід Вярэніч, Уладзімір Ткачэнка, Іван Маркаў..



*Гітарыст Аркадзь ЮШЫН.*

"Блюз жыве ў Мінску"! Што гэта было? Дзесяць гадзін жывой музыкі і шмат сустрэч з цікавымі блюзавымі выканаўцамі — не толькі з усяе Беларусі, але й з "суседскага замежжа". Расказваць пра фестывальныя падзеі я не буду, бо, па-першае, лепей раз пачуць музыку, чым дзесяць разоў прачытаць нататкі музычных крытыкаў, а па-другое, у радыё і тэлебачання сродкі больш адэкватныя для асвятлення "фактуалій" гэтай акцыі. Але спадзяюся, вам цікава будзе даведацца, як узнік фестываль і ці надоўга блюз пасяліўся ў Мінску, таму я прапаную вашай увазе фрагменты гутаркі журналістаў з тымі, хто падарыў нашаму гораду гэта свята.

Арганізаваў акцыю мінскі "Стар-клуб" пры фундатарскай падтрымцы "Філіп Морыс". Першае слова — прэзідэнту "Стар-клуба" Генадзю **Старыкаву**:

**— Мы не праводзім спаборніцтва. У нас няма пірамідальнасці, і гурты, якія ўдзельнічаюць у нашым фестывалі, дэманструюць розныя напрамкі, падыходы, творчыя канцэпцыі. "Зорак" мы запрашаем, каб "раскруціць" сваіх музыкантаў. Нам абавязкова трэба заявіць пра Мінск, увайсці ў міжнародную супольнасць фестывальных цэнтраў, каб нашых блюзменаў ведалі ў свеце, каб былі запрашэнні на іншыя фестывалі — у Францыю, у Англію, Расію, каб былі ўзаемаабмены.**

— Ці зменіцца неяк статус "Стар-клуба" пасля правядзення міжнароднага фестывалю "Блюз жыве ў Мінску"?

**— Безумоўна, мы расцём. Мы пачыналі з маленькага замкнёнага клуба, каб выпрабаваць сілы мінскіх музыкантаў. А калі пераканаліся, што патэнцыял высокі, зрабілі першы ўсебеларускі фестываль. Наступны крок — першы міжнародны. Далей мы будзем пашыраць геаграфію, падымаць агульны ўзровень.**

— А было гэтым разам нешта новае ў параўнанні з летнім, усебеларускім фестывалем?

**— Канешне. Тады быў даволі стракаты склад удзельнікаў, праграма атрымалася вельмі эклектычная. Цяпер жанр выкрышталізаваўся. Летам было некалькі відавочна слабых калектываў, яны адсеяліся, засталіся лепшыя. Мы працавалі ў вельмі напружаным тэмпе, у нас быў вельмі абмежаваны тэрмін для арганізацыйных спраў. У нас ёсць намер зрабіць фестываль традыцыйным у будучыні. Сёння без дзяржаўнай падтрымкі гэта зрабіць немагчыма.**

— Якія канкрэтна крокі па супрацоўніцтве з дзяржаўнымі структурамі, Міністэрствам культуры вы рабілі?

**— Галоўнае, як я сказаў, тое, што наша мерапрыемства разлічана на перспектыву, доўгатэрміновую практыку. Сёння нас падтрымаў Мінгарвыканкам. Я звяртаўся і да Адміністрацыі прэзідэнта, і да Міністэрства культуры, каб нам далі час у тэлеэфіры. Нам патрэбная свая праграма — на гадзіну ці паўгадзіны, гэткая інфармацыйная падтрымка нашых праектаў.**

— Ці не стане ваш фестываль цалкам дзяржаўным?

**— Гэта выключана. Блюз — музыка непалітызаваная, яна бліжэй, на мой погляд, да рэлігіі, медыцыны, дзейнасці Чырвонага Крыжа... Блюз не ангажыруецца, у адрозненне ад некаторых іншых відаў музыкі і мастацтва.**

ПЭЎНА, вядомы цыгарэтна-прадуктовы канцэрн не згадваўся б у маіх блюзавых нататках, каб не шчодрыя спонсарскія ўліванні ў фестываль. Без грошай сёння самая добрая ідэя толькі ідэяй і застанецца. І без грошай "Філіп Морыс", мабыць, мы б не даведаліся, што "Блюз жыве ў Мінску".

З кіраўніком аддзела па карпаратыўных сувязях "Філіп Морыс" Дзмітрыем **Хролам** пагутарыў мой калега Алесь **Туровіч**. І пачаў з пытання: "Ваша ўласнае стаўленне да блюза?"

**— Рэч у тым, што ўласна я і мой мастацкі густ не вызначаюць палітыку кампаніі, бо гэта не мае грошы. Для мяне блюз — гэта файна! Напрыклад, падчас маёй службы ў войску, калі ў 40-градусную спякоту мы ўкладвалі асфальт, "Ліпеньскі блюз", які выконвае "Ліга блюза", для мяне і саслужбоўцаў быў проста гімнам. Для мяне Бі Бі Кінг — каласальны музыкант... Што такое блюз — відаць і з таго, што мы ўкладваем сюды грошы. Для кампаніі джаз і блюз — сфера прыярытэтных напрамкаў.**

— Бліжэйшыя праекты вашай кампаніі на Беларусі?

**— Мы б хацелі правесці тут праграму, якую ладзім ва ўсіх краінах — "Філіп Морыс" балет": уручэнне прызоў лепшаму танцоўшчыку і лепшай балерыне года. Але гэта толькі ў планах, пакуль мы нават не гаварылі з кіраўніцтвам тэатра. У 97-м годзе мы збіраемся ўкласці ў культуру значна большыя сродкі, чым летась.**

— Наколькі ахвотна пры правядзенні культурных праграм вы ідзяце на супрацоўніцтва з дзяржаўнымі структурамі, фондамі, іншымі кампаніямі?

**— Для нас заўсёды пажадана быць асноўным генеральным спонсарам таго ці іншага праекта, праводзіць максімальную, нават манапольную падтрымку таго ці іншага праекта. Ад супрацоўніцтва з іншымі структурамі мы адмаўляемся толькі ў тым выпадку, калі гэта наш канкурэнт, які выпускае аналагічную прадукцыю.**

— Вы ўкладаеце грошы ў стабільныя і аўтарытэтныя сферы — балет, джаз, блюз. Ці згодныя вы падтрымліваць праявы яшчэ не "афіцыялізаванага" мастацтва — панк, радыкальныя праявы авангарда і постмадэрнізму?

**— Я б не сказаў, што мы ўкладаем грошы ў стабільныя рэчы, і першы міжнародны фестываль блюза пра тое сведчыць. Першы такі фестываль і блюз наўрад ці ёсць рэчы стабільныя і сталыя. Наогул, "Філіп Морыс" вельмі вялікі, і ў 190 краінах падтрымліваюцца розныя праекты. Я дакладна ведаю, што быў падтрыманы жывапісны авангард у Іспаніі, Італіі, музычны авангард у Лацінскай Амерыцы... Нас цікавяць усе арыгінальныя, яркія праекты. Аднак у адрозненне ад фондаў кшталту Сораса мы не вядзём прыём заявак, не абвяшчаем конкурсы і не маем фіксаванай сумы грошай, якія трэба выдатка-**



*Лідэр "Лігі блюза" Мікалай АРУЦЮНАЎ.*



*"КРАМА".*

## ПРАЗАІК І ПЕРАКЛАДЧЫК

**60 гадоў — Эдуарду Карпачову. Нарадзіўся Эдуард Маркавіч 27 студзеня 1937 года ў Рагачове ў сям'і настаўніка. Бацька захапляўся літаратурай, сам пісаў, з асобнымі творамі выступаў у друку. Гэта ў многім вызначыла і прафесійны выбар сына. У 1955 годзе, скончыўшы сярэднюю школу, Э. Карпачоў паступіў на факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Пасля яго заканчэння адразу ж пайшоў на творчую працу. Не будучы ў штаце ніводнага выдання, часта выязджаў у камандзіроўкі, пісаў матэрыялы для газет і часопісаў. У 1965 годзе перабраўся ў Маскву.**

**Дэбютаваў Э. Карпачоў у 1954 годзе апавяданнем "Новы суддзя" на старонках газеты "Піянер Беларусі". Потым выступаў з вершамі ў газеце "Чырвоная змена". Пісаў *не толькі па-беларуску, а і па-руску. Першае* апавяданне на рускай мове "Воўка" апублікаваў у 1956 годзе ў альманаху "Советская Отчизна".**

**Першай кнігай Э. Карпачова стаў зборнік апавяданняў "Флот на весеннем дворе", адрасаваны школьнікам, што пабачыў свет у Мінску ў 1962 годзе. У Мінску выйшлі і іншыя кнігі пісьменніка — "Отцы не вернулись с войны" (1964), "Башня командира" (1965), "Ночь на рассвете" (1967)... Шмат выдаваўся Э. Карпачоў і ў Маскве: "Горький дым" (1970), "Конный патруль" (1975), "Нежная душа" (1980), "Мост через овраг" (1989) і іншыя.**

**Добра зарэкамендаваў Эдуард Маркавіч сябе і як перакладчык. Дзякуючы яму, на рускай мове выйшлі кнігі М. Стральцова, А. Капусціна, М. Даніленкі, В. Якавенкі, Ф. Янкоўскага, В. Макарэвіча і іншых пісьменнікаў.**

## ТАК ПАТРАБУЕ СУМЛЕННЕ



**У невялікай вёсцы Гібкі Веткаўскага раёна прайшло дзяцінства члена Беларускага Саюза мастакоў Кароткага Уладзіміра Пятровіча, які зараз жыве ў Гомелі. Нядаўна споўнілася 35 гадоў яго творчай дзейнасці. Глыбокімі каранямі звязаны ён з роднымі мясцінамі. Колькі разоў сюды прыязджаў, каб адлюстраваць іх прыгажосць — знакамітую вёску Неглюбку са славутымі ткачыхамі, красу рэчкі Бесядзь, якую *абступаюць медностволыя сосны, і* аксамітныя травы прысожскіх лугоў...**

**Уладзімір Пятровіч пераважна працуе ў тэхніцы акварэлі і пастэлі. Але гэтая тэхніка, якая традыцыйна заснавана на празрыстасці, аксамітнасці і глыбіні фарбаў, нараджае ў яго творах напружаны колерны лад, які трывожыць душу, адлюстроўвае суровыя сюжэты і матывы.**

**На шматлікіх прадстаўнічых выставах экспанаваліся карціны Уладзіміра Пятровіча. Сэрца баліць ад болю, калі, напрыклад, знаёмішся з такімі яго работамі, як "Адзінокая старая", "Селянін застаўся на радзіме", "Вёска Пабужжа Веткаўскага раёна".**



***Чарнобыльская тэма — адна з галоўных у*** **творчасці Уладзіміра Пятровіча. Але ён стварае і творы аптымістычнага плана "Поле", "Зімовы дзень у вёсцы", "Сялянскія будні", у работах серыі "Мазыршчына". Жыццё ж працягваецца.**

**Алесь ШНЫПАРКОЎ,**
**мастацтвазнаўца**

*На здымках: "Чарнобыльскі вечар", "Мёртвая вёска Пабужжа".*

# НЕ ЗДАЎСЯ Ў ПАЛОН БУДЗЁНШЧЫНЕ

*ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ВАСІЛЯ ШАШАЛЕВІЧА*

Васіль Шашалевіч пражыў сваё кароткае жыццё надзвычай ярка, шчаслівa і ў той жа час выключна трагічна. Відаць, такое парадаксальнае спалучэнне не з'яўляецца нечым выключным для лёсаў выбітных людзей. Каму лёсам дадзена большая магчымасць творчага, духоўнага самавыяўлення, у таго адымецца нейкая частка цялесна-матэрыяльнай тканкі чалавечага быцця. А якая частка, вырашаем не мы.

Так атрымалася і ў лёсе В.Шашалевіча. Уваходзіў ён у жыццё ў той час, калі чалавеку няпроста было выжыць, не кажучы пра іншае. Калі пачалася першая сусветная вайна, В.Шашалевічу было семнаццаць год, і ён навучаўся ў Магілёўскай духоўнай семінарыі. Вайна перакрэсліла надзеі на працяг набыцця адукацыі: юнак паступіў у Яраслаўскі юрыдычны ліцэй, але вучыцца там не змог — не было за што жыць. В.Шашалевіч вяртаецца на радзіму і з 1917 г. працуе ў пачатковай школе вёскі Ясенне Краснапольскай воласці Чэрыкаўскага ўезда. З 1919 г. ён выкладае рускую *мову і літаратуру ў школе II ступені* раённага цэнтра Краснаполле.

Атрымалася, што жыццё перакрыла яму простыя шляхі да вышынь творчага духу. Сітуацыя склалася тыповая: першы жыццёвы штурм скончыўся няўдачай. З гэтай сітуацыі ёсць два выйсці: альбо "пускаць карані", альбо працягваць далей пошук на пакручастых сцежках духоўнага пазнання. На другі шлях асмельваюцца ступаць нямногія, бо спрабаваць перамагчы лёс надзвычай небяспечна: кара можа быць бязлітаснай. Але В.Шашалевіч не збіраўся здавацца ў палон будзёншчыне. Апрача таго, што ён узмоцнена займаўся самаадукацыяй, малады настаўнік актыўна ўдзельнічаў у мясцовым культурным жыцці. Ніколі ні да, ні пасля таго мястэчка Краснаполле не зазнавала і не зазнае такога ўсплеску грамадска-культурнага руху. Браты Васіль і Андрэй (будучы вядомы беларускі празаік Андрэй Мрый) з сёстрамі арганізавалі ў школе драматычны і літаратурны гурткі, выдавалі рукапісны часопіс "Пралеска", стварылі ў мястэчку хор і аркестр народных інструментаў. Больш таго — энергіі ў В.Шашалевіча хапае і на тое, каб пачаць працу над буйным драматургічным творам, драмай "Апраметная" ("Зруйнаваная цемра").

Усё ж апантанасць, з якою малады настаўнік імкнуўся да спасціжэння таямніц мастацкай творчасці дала свой плён. Ды які! Мяркуйце самі: драма "Апраметная" трапляе ў рэпертуар Беларускай драматычнай студыі ў Маскве, будучага БДТ-ІІ. У 1924 г. В.Шашалевіч пераязджае ў Менск і, па некаторых звестках, паказвае свой твор Я.Купалу, які дае п'есе станоўчую ацэнку. 16 мая 1925 г. у Маскве адбылася прэм'ера спектакля "Апраметная". І крытыка, і гледачы прынялі спектакль вельмі добразычліва. Вось што я меў на ўвазе, калі гаварыў пра шчасце ў жыцці В.Шашалевіча. Ці ж можа быць большае шчасце для творцы, чым ажыццяўленне сваіх творчых задум, уключэнне ў плынь мастацкага жыцця. Прычым уключэнне ўдалае і арганічнае. А тое, што яно было менавіта такім, не выклікае сумненняў.

Мастацкае вырашэнне "Апраметнай" мела сімволіка-алегарычны характар. Сюжэт драмы на першы погляд даволі просты — гэта казачная гісторыя аб прыгажуні Алёнцы, на якую вядзьмар наслаў чароўны сон, адначасова паланіўшы яе родную старонку ды прымусіўшы народ забыць сваю мову, і аб вызваленні дзяўчыны і ўсяго краю магутнымі волатамі. Аднак драматург здолеў таленавіта трансфармаваць казачны сюжэт, стварыць п'есу з высокім нацыянальна-вызваленчым пафасам і арганічнай вобразнасцю, якая грунтуецца на фальклорных першавытоках. Для беларускай драматургіі гэта быў час эстэтычнага і духоўнага жыўлення фальклорам. Яно і зразумела: беларускае драматычнае пісьменства ў новых умовах павінна было выявіць свой нацыянальна-культурны архетып, улічыўшы арыентацыяй на фальклор яшчэ і патрэбы гледача, якому гэтая арыентацыя была вельмі зразумелая і блізкая. Якраз у пачатку 20-х гг. з'явіліся такія творы беларускіх драматургаў, як "На Купалле" (1921) М. Чарота, "Вяселле" (1921) В. Гарбацэвіча, "Машэка" (1922) і "Каваль-ваявода" (1924) Е. Міровіча. І "Апраметная" В. Шашалевіча па мастацкіх якасцях была сярод іх далёка не на апошнім месцы.

А гэта ж быў толькі дэбют! І можна было чакаць таго, што малады драматург з цягам часу ўпэўнена расправіць крылы. У цэлым так яно і атрымалася. Агаворка "ў цэлым" азначае тую простую рэч, што, як бы сказаць, "гравітацыйнае поле" часу, у якім жыў і тварыў мастак, не лепшым чынам паўплывала на мастацкае вырашэнне некаторых яго твораў. А было тое "гравітацыйнае поле" вельмі моцным, і ўздзеянне на В. Шашалевіча пачало яно рабіць вельмі рана — амаль адразу пасля прэм'ер спектакляў па першых дзвюх яго п'есах. Пасля "Апраметнай" В. Шашалевіч напісаў драму "Змрок", якая была пастаў*лена ў БДТ-І, прэм'ера адбылася ў студзені* 1927 г. У гэтым жа годзе ў Менск прыехаў даваць творчую справаздачу наватворany БДТ-ІІ, у ліку паказаных спектакляў была і "Апраметная". І менавіта ў гэтым, 1927 годзе з *вуснаў некаторых* крытыкаў упершыню ў адрас В. Шашалевіча прагучалі папрокі ў безыдэйнасці і абвінавачванні ў нацыяналізме. Пазбавіцца ад гэтага цэтлікавызначэння, прышпіленага В. Шашалевічу ў 1927 годзе, драматургу не ўдасца да канца жыцця, ды яшчэ гадоў трыццаць пасля смерці.

Гэтыя непрыемнасці з крытыкай на самым пачатку творчага шляху, відаць, балюча перажываліся драматургам, але не былі вызначальнымі для яго на той час. Хутчэй за ўсё пісьменнік успрымаў гэта як часовыя з'явы. Верагодна нават тое, што драматург у некаторых момантах і пагаджаўся з крытыкай, бо ў наступных сваіх драмах ён зрабіў істотную карэкціроўку ідэйнай пазіцыі.

У гэты час В. Шашалевіч шмат працуе. У архіве Белдрамтаварыства (Беларускага таварыства драматычных пісьменнікаў і кампазітараў), сябрам якога з'яўляўся пісьменнік, намі знойдзены звесткі, што недзе ў прамежку 1926—1928 гадоў ім была напісана драма ў 4-х дзеях "Трэцяя сіла". Гэта новы факт творчай біяграфіі драматурга. Аднак, на жаль, больш звестак пра гэтую п'есу пакуль не знойдзена.

В. Шашалевіч становіцца сябрам суполкі "Узвышша", вучыцца на курсах сцэнарыстаў у Ленінградзе. І, вядома, піша. У 1928—1929 гадах драматург друкуе ў часопісе "Узвышша" сваю новую п'есу "Воўчыя ночы".

З пастаноўкай гэтай п'есы В. Шашалевічу зноў не пашанцавала. Тэатры чамусьці не зацікавіліся творам. А, можа, і не паспелі, бо ў ліпені 1930 г. драматург на некалькі месяцаў трапіў за краты па сумна вядомай справе СВБ ("Саюза вызвалення Беларусі"). Адбылося гэта, вядома ж, невыпадкова. І хлёсткія вызначэнні, якімі жангліравалі крытыкі ў 1927 годзе, сваю ролю ў гэтым, бясспрэчна, адыгралі.

Так скончыўся шчаслівы перыяд у творчасці В. Шашалевіча і пачалася чорная паласа ў яго жыцці. І хоць бывалі на яго шляху і прасвятленні, хмары над яго галавой згушчаліся ўсё больш і больш. Следства па справе яго прыналежнасці да СВБ было спынена, але яго асоба ўжо трапіла ў поле зроку ДПУ. У канчатковым выніку гэта і адыграе фатальную ролю ў яго жыцці. А пакуль што В. Шашалевіч пасля выхаду з турмы імкнуўся жыць як звычайна. У 1931 г. у часопісе "Узвышша" друкуецца яго новая п'еса "Рой".

Гэтая драма была напісана па тых "рэцэптах творчасці", якія на той час лічыліся ўзорнымі. На выкарыстанне іх усімі праўдамі і няпраўдамі скіроўвалі пісьменнікаў палітыкі ад літаратуры. А ў выніку ў В. Шашалевіча атрымалася тыповая "калектывізатарская" п'еса, заідэалагізаваная і схематычная. Безумоўна, адчуваецца, што п'еса напісана рукой майстра, абазнанага ў таямніцах драматургічнага пісьменства. Але як ні імкнуўся драматург удыхнуць жыццё ў сваіх герояў, гэта яму ўдалося слаба. За невялікім выключэннем, атрымаліся яны нежывымі марыянеткамі і рухаліся толькі па волі аўтара. Інакш і быць не магло — першакрыніцай стварэння драмы было не рэальнае паўнакроўнае жыццё, а набор палітычных схем.

У гэтым і выявіліся вынікі страшэннага псіхалагічнага ціску на пісьменніка. Здавалася б — зламалі чалавека, паставілі яго на калені, прымусілі пісаць так, як хацелася б ідэалагічна падкаваным заканадаўцам літаратурнага жыцця ў Савецкай Беларусі. Але гэта толькі здавалася, бо В. Шашалевіч зрабіў тое, што і павінен быў зрабіць сапраўдны мастак. Ён адказаў палітычным дачаснікам на мове вечнасці: напісаў драму "Сімфонія гневу". Гэтая п'еса з'яўляецца сапраўдным шэдэўрам як у творчасці В. Шашалевіча, так і ва ўсёй беларускай драматургіі XX стагоддзя. У п'есе ставіцца вечная праблема жыцця: канфлікт творцы і ўлады. *Зразумела, што ў якасці матэрыялу* для сюжэта драмы была абраная сацыяльная рэчаіснасць адной з заходнееўрапейскіх капіталістычных дзяржаў. І тэма твора фармулявалася ў той час ад*назначна: становішча творчай інтэлігенцыі* на Захадзе. Але ж на тое яна і вечная — мова мастацтва. Разнастайнасць і шматмернасць сапраўднага мастацкага твора немагчыма ахарактарызаваць з дапамогай дзвюх-трох спрошчаных да прымітыўнасці высноў. Сітуацыя, якую разглядае ў сваёй драме В. Шашалевіч — тыповая для мастакоў усіх часоў і народаў. Ды і сам драматург знаходзіўся ў такім жа становішчы, што і галоўны герой. Пісьменнік ствараў драму ў такім высокім творчым запале (аб гэтым ёсць сведчанне С. Грахоўскага), што напэўна ўклаў у яе частку сваёй несмяротнай душы. У вусны галоўнага героя В. Шашалевіч укладваў выпакутаваныя ўласныя думкі. Вельмі часта, чытаючы драму, амаль фізічна адчуваеш знікненне мяжы, падзяляючай пазіцыю аўтара і сутнасць мастацкага характару Рамана Салька. "Ніхто: ні дзяржава, ні ўрад, ні прыватны чалавек не павінны накладваць руку на вольны дух мастака, які прымушае яго ствараць!.. Мастак сам знаходзіць свае тэмы. Ён прыслухоўваецца толькі да свайго сумлення, да голасу ўнутранай Праўды, які і ёсць адзін суддзя і заказчык яго твораў". Гэта быў крык душы драматурга, укладзены ў вусны персанажа, пазіцыя якога вельмі блізкая пазіцыі аўтара.

Што ж, праблема свабоды творчасці была куды як актуальнай у той час. Зразумела, у няяўным выглядзе. Вось як гэта *выяўляецца ў драме. Рэпліка Шэфа Палітычнага*, аднаго з тыповых прадстаўнікоў дыктатарскага рэжыму ў "свеце капіталу": "Мастакі — лепшыя людзі нашай дзяржавы, але мы не дазволім, каб яны на нашых вачах арганізавалі масы супроць нас". І яшчэ: "Калі ставіцца на карту існаванне дзяржавы, нацыі і класа, што значаць у параўнанні з гэтым мучэнні аднаго чалавека?". Знаёмыя фармулёўкі, ці не так?

Усё ж В. Шашалевіч, як яго герой, атрымаў маральную перамогу над "шэфамі палітычнымі". У сваёй п'есе ён даў публічную поўху людажэрскаму рэжыму, які знішчыў мільёны людзей. У гэтым творы драматург пакінуў нашчадкам свой чалавечы і творчы запавет. Варта было жыць і пакутаваць, каб напісаць гэтую сапраўдную сімфонію гневу чалавечага супраць звыродлівага палітычнага прагматызму, які, калі людзі не здолеюць ад яго пазбавіцца, знішчыць увесь гэты свет.

"Шэфы палітычныя" ўсё ж дачасна звялі В. Шашалевіча ў магілу. Але пакуль чалавека памятаюць, пакуль шануюць тое, што ён пакінуў па сабе, чалавек жыве. Значыць нам трэба парупіцца аб тым, каб Васіль Шашалевіч жыў столькі, колькі будзе жыць на свеце Беларусь і беларусы.

**Зміцер МАМАЧКІН**

*г. Гомель*

# ЗГАДКІ

Масей СЯДНЁЎ

## ГУМАННАЯ МОВА

### З маіх універсітэцкіх успамінаў

У 1959 годзе пашанцавала мне, пасля дзевяцёх год цяжкай працы на фабрыцы, уладзіцца выкладчыкам рускай мовы ў універсітэце Індыяна (штат Індыяна, ЗША). А як пашанцавала? Прафесар Нью-Йоркскага універсітэту, што была знаёма з загадчыкам славянскага факультэту універсітэту Індыяна, рэкамендавала мяне, як "вядомага" беларускага паэта з добрымі ведамі рускай мовы. І гэтак, я быў прыняты на працу выкладчыка рускай мовы. Можна ўявіць маю радасць з такой нагоды, але адначасна мяне браў і сумлеў: ці спраўлюся? Педагогам жа, хоць я і вучыўся ў педагагічным інстытуце, мне не давялося быць, і такім парадкам без практыкі я трохі й баяўся ехаць у гарадок з прыгожай назвай Блумінгтон, дзе месціўся універсітэт. Да таго ж не забываў я і свайго беларускага вымаўлення: выкладчыка рускай мовы хацелі мець з так званых "центральных областей России". Як бы там ні было, еду з сям'ёй у Блумінгтон і прыступаю да працы.

У першы ж дзень заняткаў мае студэнты даведаліся, што іхны настаўнік беларускі паэт. І трэба сказаць, што гэта аніяк не пашкодзіла маёй рэпутацыі, як выкладчыка, хутчэй наадварот — у іхных вачох быў я нечым большым, чымся выкладчык. З боку студэнтаў неспадзявана для мяне пачался зацікаўленне Беларусяй. Студэнты пачалі шукаць Беларусь на карце, пытацца якая сталіца Беларусі, нат пра гісторыю Беларусі і заўсёды непазбежнае пытанне, якая розніца паміж рускай і беларускай мовамі. Узнікала столькі розных пытанняў, часам недаўменных, што гэта нярэдка камечыла мой урок. Выясняючы розніцу паміж мовамі рускай і беларускай, мой курс набываў рысы параўнальнай граматыкі. Зразумела, я не мог аддаваць шмат часу на такое высненне, рабіў я гэта пабежна, найчасцей па-за школьнымі заняткамі. Нярэдка, зразумела, мае студэнты прасілі мяне прачытаць той ці іншы свой верш, ці кавалак нейкай беларускай прозы. Аднойчы ў так званай лінгвістычнай лабараторыі мае студэнты праслухалі істужку з тэкстам, начытаным мною з рамана Мележа "Подых навальніцы". Студэнты вельмі чуйны народ, яны хутка і добра ўлоўліваюць адметнае гучанне беларускай мовы. Праслухаўшы, адзін студэнт і гаворыць: "Я амаль нічога не зразумеў тут, але беларуская мова мякчэйшая і больш павольная мова за рускую, можна сказаць — humane language, гуманная мова. Гэты студэнт, дарэчы, браў у мяне прыватныя ўрокі беларускай мовы. Выкладчык рускай мовы з "центральных областей России" не прапускаў выпадку, каб не пасмяяцца, быццам я беларусізую сваіх студэнтаў.

Было й такое, калі беларускай "гуманнай мове" не надта шанцавала ў якога-небудзь мовазнаўца-славіста, асабліва ў выкладчыкаў з так званай школы "структуралістаў". Універсітэт Індыяна ганарыўся сваім, даволі вялікім факультэтам лінгвістыкі. Між мовазнаўцамі гэтага факультэту існавалі разбежнасці і ў ацэнцы беларускай мовы. Гэтыя разбежнасці выяўляліся і ў тых ці іншых лекцыях для студэнтаў. Гэта я зазнаў і на сабе. Маё бездыпломнае палажэнне (выкладчыка без дыплома маглі лёгка звольніць) змусіла мяне, побач працы, і вучыцца, каб здабыць той дыплом. І вось, немалады ўжо, сяджу на лекцыях між студэнтаў, што маглі б паводле веку быць маімі дзецьмі. Адчуванне неважнецкае. Але... Чытае лекцыю мовазнавец Джон Бібі. Тэма: "Структурныя асаблівасці рускай, украінскай і беларускай моваў". Выкладае хатычна. Студэнты слухаюць яго напружана, але не могуць яго запісваць. А ён сыпіць і сыпіць. Прыклад за прыкладам. Правіла за правілам. Гаворыць пра структурныя асаблівасці беларускай мовы. Знаходзіць іх мала і аўтарытэтна заяўляе (глядзіць у мой бок: "Ведаю, містэр Седнеў будзе не згодны са мною") — лінгвістычна беларуская мова несамастойная. Быў я ўкваэлены і нічога лепшага не мог сказаць, як толькі: "Калі прыняць ваш крытэрый лінгвістычнай самастойнасці, дык з такім жа поспехам можна пазбавіць гэтай самастойнасці рускую, украінскую і любую мову". (Трэба, аднак, аддаць яму належнае: на сваім заключным экзамене не помсціў мне, паставіў добрую адзнаку).

Джон Бібі быў некалькі разоў са сваімі студэнтамі ў Маскве і неяк заразіўся рускім патрыятызмам. Часам ягоная "інтэрпрэтацыя" мела сваіх "вучняў": адзін ягоны выхаванец, ужо аспірант, неяк падышоў да мяне і запытаўся на вычурнай рускай мове: "Ці праўда гэта, што беларуская мова памірае?" Праўда, будзе яшчэ нагода, калі гэты аспірант падыйдзе да мяне яшчэ раз, каб павінавацідца.

Трэба адзначыць, што й на акадэмічным узроўні адыгрывала пэўную ролю тая ці іншая палітычная арыентацыя выкладчыка. Згаданы Джон Бібі быў якраз не свабодны і ў такой галіне, як лінгвістыка. Сярод выкладчыкаў-мовазнаўцаў універсітэта Індыяна былі і навукоўцы, што аддавалі належнае беларускай мове. Сярод іх назаву Клагштата, Ойніса, Эдуарда Станкевіча (гэты апошні не раз звяртаўся да мяне з пытаннямі адносна націску ў беларускай мове). Ойніс, напрыклад, з усіх славянскіх моў выдзяляў якраз беларускую мову, як сапраўдную мову, несапсаваную штампамі літаратурнай мовы. Заўсёды спасылаўся на вядомае выказванне Адама Міцкевіча пра беларускую мову, як самую чыстую і мілагучную. Сярод славістаў універсітэту беларускай мовай цікавіўся і прафесар Кадыч. Прыхільнікам беларушчыны быў і бібліятэкар Турчын. З маёй дапамогай ён амаль на голым месцы збудаваў салідны фонд беларускай кнігі ў бібліятэцы універсітэта.

Вышэй названыя асобы былі і ініцыятарамі майго літаратурнага вечару ў Інтэрнацыянальным клубе універсітэту. На гэты вечар прыйшлі паслухаць беларускага паэта студэнты славянскага універсітэту, выкладчыкі, іншыя супрацоўнікі навучальнай установы.

Чытаю найперш па-беларуску свой уступны артыкул пра Беларусь. Паэтычную частку пачынаю вершам Янкі Купалы "Роднае слова". А потым пайшлі мае, верш за вершам. Чытаю на памяць. "Гуманная мова" пачынае браць сваё: аўдыторыя ператварылася ў поўны, напружаны слых, пераваны толькі апладысментамі. Мяне вітаюць з поспехам. Падыходзіць і той аспірант, гаворыць: "Не, чую, што беларуская мова не памерла, жыве". Адбылася ў нейкім сэнсе рэабілітацыя беларускай мовы ў універсітэце Індыяна... Блумінгтон стаўся для мяне Цветаградам, як яго пераклалі мае студэнты. Падаспеў і мой цяжка запрацаваны дыплом магістра. З дыпломам я ўжо меў магчымасць падшукаць сабе выгаднейшае месца. І такое месца знайшлося было мне ў штаце Мантана, у гарадку Мізула, акружаным гарамі, падобнымі на калымскія. Нягледзячы на някепскія ўмовы, што даваў мне універсітэт у Мізуле, неверагодна, але дзеля калымскага краявіду, хоць і з болем у сэрцы, я не прыняў прапановы працы ў універсітэце. Праўда, у мяне адкрывалася магчымасць працы ў штаце Вірджынія, у жаночым каледжы ў Голанд, і я быў падпісаў кантракт з гэтай навучальнай установай, арганізаваў было ўжо свой курс, замовіў падручнікі для сваіх студэнтаў, ды зноў — склаўся так лёс — адкрылася магчымасць працы ў Эўропе, і я назаўсёды развітаўся з сваім Цветаградам.



*Масей Сяднёў сярод маладых беларускіх літаратараў.*

## ЯЕ НЯМА

Яе няма. Яна была. Але цяпер яе няма. Той дом, у якім яна жыла, прададзены. У ім цяпер іншыя насельнікі, і той фіранкі ў ейным вакне, за якою я ўяўляў яе, прыгожую, спакуслівую, той фіранкі ўжо няма. Вакно завешана нечым такім, што абражае памяць аб ёй. А калісьці ейнае вакно было для мяне вакном да яе. Я ўглядаўся ў гэтае вакно ў надзеі калі-небудзь пабачыць яе. Хоць — не. Не пабачыць. Мне дастаткова было ўяўлення аб ёй. Я надзяліў яе самымі прывабнымі рысамі, якія толькі я мог прыдумаць. А мая ўява аб ёй пачалася, калі я пабачыў аднойчы на галінках разложыстага дрэва перад ейным домам бялюткія, як лілеі, папяровыя істужкі, што звісалі аж да самага долу. У краіне, дзе я жыву, ёсць такі звычай чапляць папяровыя, лёгкія, як пух, істужкі, калі мае адбыцца нейкая ўрачыстасць: дзень нараджэння ці вяселле. Я не дапушчаў, што тут, у гэтым, у гэтым доме, спраўлялі вяселле. Яно ня выклікала б у мяне рамантыкі. Гэта было б нешта ўжо скончанае. Не, тут увечары да позняй начы спраўляўся дзень нараджэння нейкай, абавязкова прыгожай дзяўчыны. Ёй мо 18 ці 20 год. Вось і дае яна знаць вонкаваму свету, што ў гэтым доме жыве яна, трохі гордая, быццам недаступная, але пяхельна прыгожая і **гатовая**. Уся ў чаканні. У гэтую ж хвіліну, пасля начной весялосці, яна пэўна спіць у вадным з пакояў гэтага прыгожага дому. І сонныя рысы ейнага твару такія, што ты не хацеў бы больш нічога, як толькі дакрануцца ейных, і ў сне спакуслівых вуснаў. Здавалася, яна не спіць, а ў сваёй ціхамірнасці жыве тым, што **было**...

Але "ў" мяне няма ўжо таго, што **было**. Няма Яе. Няма таго вакна, у якое я ўглядаўся. І тых істужак няма. Нават таго дрэва няма. Верхавіна яго ссечана, галінкі-сукі шчыльна сспілаваны і тое дрэва абрубкам тупа глядзіць у неба. Калі я іду ці еду паўз гэты дом, я адварачваюся, я баюся глядзець на дрэва-абрубак. Толькі кідка зірну на панадворак, але без Яе ён мёртвы.

*1996, Глен Коў.*

# ПА ПЕРЫМЕТРУ КВАДРАТА

На мове дыпламатаў і культуролагаў гэта называецца дастаткова ваяўніча — "культурная экспансія". У ролі канкістадора выступіла асоба, выдатна абазнаная ў рускай культуры і мове, значна маладзейшая за сяброў беларускага ПЭН-клуба, якія ўрачыста праводзілі вернісаж у галерэі "Брама". Пан Юхан Эгбэрг, аташэ па культуры пасольства Швецыі ў Беларусі, адкрываў выставу "Немагчымыя фігуры" Оскара Ройтэрсвэрда, знакамітага на радзіме і інкогніта ў нас. Ён гаварыў пра рускія карані сям'і мастака, пра ягоныя пошукі, сугучныя або паралельныя адкрыццям супрэматыстаў і сюррэалістаў, пра фігуры Марка Шагала, што лунаюць над Віцебскам. Трапна адзначыў правакацыйнае балансаванне мастака на мяжы сур'ёзнага і забаўляльнага, не з той, праўда, апавядальнай вынаходлівасцю, як у ягонага славутага папярэдніка галандца Эшэра. Падданоўся на правакацыю, падумалася: "Ну і заваёўвайце нас, вікінгі! Мы вам аб'явім вайну, а пад вечар здамося ў палон. Альбо прагаласуем на рэферэндуме за канфедэрацыю. Абы паспець да канца студзеня..."

Так, у нешырокай амплітудзе ад жартаўлівага да паважнага, пульсавала канструктыўная прастора "немагчымай" экспазіцыі. Глыбокая інтэлектуальнасць стакгольмскага летуценніка заслужыла ўвагу самых дастойных аналітыкаў. І тут без цытавання не абысціся, таму што лепш — не скажаш.

"Вобразы Оскара Ройтэрсвэрда належаць да свету парадоксаў, які мы час ад часу павінны наведваць, каб у рэшце рэшт не зліцца са шпалерамі на сцяне, да чаго вядзе нас наша штодзённае аўтаматызаванае ўспрыманне. У гэтым свеце ў бязважкасці плаваюць скалы Рэнэ Магрыта і нікога не здзіўляюць словы польскай паэткі Віславы Шымборскай:

— Я пунктуальна не прыбыла ў горад Н...

— Вас паінфармавалі неадпраўленым лістом..." (Ларс Клебэрг).

"Малюнак з'яўляецца падманам, але малюнак немагчымай фігуры з'яўляецца падманам удвая. Спачатку нам здаецца, што мы бачым тры вымярэнні на плоскаснай карціне, затым нам унушаецца думка, што адлюстраваны прадмет не можа існаваць у прасторы. На самай справе, усе гэтыя немагчымыя фігуры магчымыя! Аказваецца, пры сутыкненні з нестандартнай сітуацыяй нам лягчэй убачыць немагчымае..." (Зянон Кульпа).

"Тры коміны нечакана ператвараюцца ў два. Хіба не знаёмая нам гэтая метамарфоза? З'ява культуры, якую тады было прынята называць сацрэалізмам, ці гэта не дыскорцыя ўяўлення і рэчаіснасці?" (Васіль Быкаў).

Прысутнасць Васіля Уладзіміравіча на вернісажы была вельмі адэкватнай. Ягоныя творы перакладзены на шведскую мову. А чые яшчэ? Памятаю стакгольмскае выданне "Пана Тадэвуша" на экспазіцыі навагрудскага музея Адама Міцкевіча ды адпаведны фрагмент шматмоўнага выдання Купалавага верша "Беларусы". І ўсё! Калі хто ведае дадатковыя прыклады, буду толькі рады. А што знае пра паўночную краіну наш сярэднестатыстычны грамадзянін? Паспрабуем метад мазгавой атакі. Раз, два, тры..." "швед, русский колет, режет, рубит...", "...и разных прочих шведов". М-да, няшмат. Культурная эліта, напэўна, прыгадае імёны Стрындберга, Лагерлёф, Бэргмана. Пры наяўнасці "ін'яза" і іншых устаноў у Беларусі не выйшла ніводнай кнігі пра Швецыю, ніводнага перакладу (калькі з рускамоўных перакладаў не лічацца)! Мы не маем уласнай школы скандынавістыкі. Ці ж гэта не нуль у квадраце, не лесвіца ў нікуды?

Оскар Ройтэрсвэрд нарадзіўся ў Стакгольме ў 1915 годзе, вучыўся ў родным горадзе, і ўжо ў 1934-ым сканструяваў першую немагчымую фігуру. У 1950-51 ён вучыўся ў Парыжы ў Фернана Лежэ. Можа, пачуў ад беларускай жонкі свайго мэтра пра яе радзіму (па-шведску Вітрюслан — Белая Расія), ці не падумаў: "А-а, гэтыя белагвардзейцы"? Кожнае дзесяцігоддзе пазначана ў ягонай творчасці новымі стылістычнымі эксперыментамі ў графіцы, скульптуры і архітэктуры. Камп'ютэр, неонавыя трубы, лазерныя прамяні становяцца штодзённай часткай ягонай працы. А ў апошні перыяд мастак жыве ў дыялозе з Бахам, ствараючы кінематаграфічныя ілюстрацыі да фуг.

Колер абсурдных кампазіцый Ройтэрсвэрда абсалютна канкрэтны. Менавіта танальныя размыўкі хлусяць нашым вачам сваёй натуральнасцю і ўрэшце блытаюць сярод злашчасных комінаў. Лінеарная галаваломка, падобная на інжынерны чарцёж, дзякуючы колеру становіцца аб'ектам мастацтва. Экспазіцыйны шэраг квітнее вясёлкай, нараджаецца асаблівая святочнасць. Таму што ў графічных абстракцыях чытаецца зайздроснае пачуццё творчай свабоды.

І яшчэ — сапраўдная квінтэсэнцыя жыццёвага вопыту. Успомнім, як шаманы ад прапаганды тлумачылі рабочым на палітгадзінах, што "Быкаў — прадукт эпохі застою", называючы белае чорным. Мой бацька памятаў да апошняга дня, з якой радасцю з канцлагера Штутгоф выязджалі пад сцягам шведскага Чырвонага Крыжа дацкія і нарвежскія вязні. А ўсіх савецкіх зігзагамі прамой "вызваленне" скіравала ў ГУЛАГ...

Творы выклікаюць бясконцыя асацыяцыі. Яны зразумелыя не кожнаму. Загнаны ў падсвядомасць код "Перадзвіжнікі — вяршыня мастацтва" часта аказваецца непахісным. Аднак нізка ў канцы экспазіцыі, дзе галоўны матыў — неба, кранала самыя цвёрдыя сэрцы. Прымушала пераканацца, што Януш Радзівіл быў не апошні, хто ў нас любіў Швецыю. Пазней пэўны Раманаў абяцаў адкрыць акно ў Еўропу і так бараніў Беларусь ад Карла XII, што спаліў Магілёў і Полацкую Сафію. Цяпер нам трэба пераадолець загадкі японскай перспектывы і смела зірнуць у акенца, раскрытае шведскім мастаком. Сапраўднае мастацтва не разбурае, не хлусіць.

**Валеры БУЙВАЛ**

## ЛЯ ВЫТОКАЎ ГІСТАРЫЧНАГА ЖАНРУ

**у беларускай літаратуры стаяў і Мікола Садковіч. Праўда, на яго творчасць не мог не аказаць уплыву агульны стан тагачаснай гістарычнай навукі, што праявілася і ў назве рамана, прысвечанага нашаму слыннаму першадрукару, адукаванейшаму чалавеку свайго часу Ф. Скарыне, напісанаму М. Садковічам разам з Я. Львовым — "Георгий Скорина" (1951, папраўленае і дапоўненае выданне з'явілася ў 1957 годзе).**

**М. Садковіч нарадзіўся ў вёсцы Вусце цяперашняга Аршанскага раёна 90 гадоў назад (памёр 16 жніўня 1968 года). У 1928 годзе скончыў Дзяржаўны тэхнікум кінематаграфіі ў Маскве. У 1942—1945 гадах кіраваў Беларускай кінагрупай на Цэнтральнай студыі дакументальных фільмаў у Маскве, з якой выязджаў да партызан і на франты. У 1946—1947-ым і ў 1950—1953-ым гадах працаваў міністрам кінематаграфіі БССР, у 1953—1956 гадах быў намеснікам міністра культуры БССР.**

**Вядомы не толькі як пісьменнік ("Повесть о Ясном Стахоре", дзённік назіранняў "Человек в тундре", раман "Мадам Любовь" і іншыя творы), а і як сцэнарыст, пастаноўшчык фільмаў. За дакументальны фільм "Дэмакратычная Германія" (1951) быў удастоены Дзяржаўнай прэміі СССР.**

## УЖО НЕ САКРЭТНА



**З 15 лістапада па 15 снежня ў Магілёўскім музеі этнаграфіі экспанавалася выстава маскоўскага фотамастака Анатоля Бялясава "Совершенно не секретно".**

**Наш зямляк, магілёвец, Анатоль працуе сёння фотакарэспандэнтам газеты "Совершенно секретно". Адсюль назва выставы і тэматычная разнастайнасць ягоных работ. Камера Бялясава з рэпарцёрскай дакладнасцю фіксуе моманты з жыцця поп-зорнага палітычнага бамонду, чарнобыльскай зоны і псіхіятрычнага аддзялення Бутырскай турмы, базарных рэкецiраў і манашак з Магілёўскага жаночага манастыра і г.д. Найбольшую ўвагу шырокай публікі прываблівалі арыгінальныя здымкі "герояў нашага часу": "папяровага тыгра" расійскай палітыкі Жырыноўскага і зусім не бутафорскага "звера" — генерала Лебедзя, поп-зоркі эстрады Майкла Джэксана і неўвядальнай рэвалюцыянеркі Валерыі Навадворскай, вялікага знаўцы квашанай капусты Станіслава Шушкевіча і сціплага амерыканскага грамадзяніна Арнольда Шварцэнэгера. Здавалася б, для якаснага здымка дастаткова добрай камеры, плёнкі "Кодак" і таленту "лавіць момант". Усё гэта, асабліва "імгненная рэакцыя", у Анатоля ёсць (між іншым, ён майстар спорту па грэка-рымскай барацьбе), але ў такім нэлітарным жанры, як фотарэпартаж, вялікую ролю іграе камунікабельнасць і абаяльнасць, настойлівасць і проста шанцаванне.**

**А ўдача, відаць, ад Анатоля пакуль не адварочваецца. Праехаўшы праз 14 краін з гарачымі кропкамі і зонамі канфлікту, ён заўсёды вяртаўся з цікавымі матэрыяламі і фотарэпартажамі, што сам тлумачыць "беларускай развакліваcцю і адкрытасцю" свайго характару. Прыкладам камунікабельных і "пранікальных" магчымасцяў нашага земляка стаў здымак з Майклам Джэксанам, праз ахову якога Анатоль прайшоў на спор з калегамі. Прабіўся ён і да нашага палітыка-інтэгратара, таксама вядомага сваёй шматлікай непадкупнай вартай. Апошнія здымкі, на жаль, не патрапілі на выставу.**

**А наогул, яна стала магчыма дзякуючы спонсарству вядомых фірм СП "Белая Вежа — КОДАК", "КОКА-КОЛА Аматил Беларусь", МП "Канкорд", а таксама Беларускаму клубу мастацкай фатаграфіі і народнаму фотаклубу "Вясёлка" Магілёўскага гарадскога Цэнтра культуры. Пасля Магілёва яна будзе экспанавацца ў Маскве і Польшчы.**

**Васіль АЎРАМЕНКА**

# РАДЗІМА Ў КОЖНАГА АДНА

***Дай часу, смерць! Спыні сваю касу,***
***Я не прашу ў цябе яго занадта,***
***Каб зноў сваю засеяць паласу —***
***Хачу ўбраць да кожнага зярнятка...***
***Дай абысці загон з кутка ў куток,***
***Каб незаўважаным на голай пожні***
***Ніводны не застаўся каласок —***
***Хаця я знаю, з зернем і не кожны.***

Так пісаў Іван Ласкоў, нібы прадчуваючы свой заўчасны канец. Сталыя чытачы "ЛіМа" добра ведаюць імя Ласкова, бо ён часта выступаў на старонках газеты з яркімі, арыгінальнымі, можна сказаць сенсацыйнымі артыкуламі па гісторыі старажытнай Беларусі. Нагадаю хаця б яго артыкул "Племя пяці родаў" (18.08.89), які выклікаў такую гарачую цікавасць у чытачоў.

Яму было толькі 53 гады. Дыягназ — інсульт. А як там што было, хто ведае? Ён памёр адзін, раптоўна, на лецішчы пад Якуцкам.

Можа, занадта многа працаваў? Меў зашмат непрыемнасцей?

У Якуцк Ласкоў трапіў у 1971 годзе, пасля сканчэння хімічнага факультэта БДУ, а потым маскоўскага Літаратурнага інстытута. Ажаніўся са сваёй аднакурсніцай якуцкай пісьменніцай Валянцінай Гаўрыльевай і паехаў на радзіму жонкі на сталае жыхарства. Выхаванец Магілёўскага дзіцячага дома, свайго кута ў Беларусі Ласкоў не меў.

Два першыя паэтычныя зборнікі ён напісаў на рускай мове. А пасля, напэўна, абвостранае разлукай, успыхнула ў ім гарачае пачуццё да Бацькаўшчыны, да яе гісторыі і мовы:

***Я не магу пра Беларусь***
***Пісаць на іншай мове...***
***Нібы не вершы я пляту,***
***А без гармат і танкаў***
***На мову родную вяду***
***Шарэнгі акупантаў.***
***Нібы не проста над радком***
***Апоўначы мудрую —***
***Безабаронны матчын дом***
***З хаўруснікам рабую!***

Так нарадзіўся **беларускі паэт** Іван Ласкоў. Зрэшты, ён толькі пачынаў як паэт, а пазней пісаў аповесці і п'есы, крытычныя і публіцыстычныя артыкулы, гістарычныя даследаванні. Зразумела, друкуючыся ў якуцкай прэсе, закранаў ён і тамтэйшыя літаратурныя справы. Артыкулы яго былі прынцыповыя, часам рэзкія. Ён усё называў сваімі імёнамі: плагіятараў — злодзеямі, колішніх інфарматараў НКУС — даносчыкамі. Гэта выклікала ў Якуцку хвалю абурэння супраць Ласкова.

Хто быў вінаваты ў тым канфлікце? Наколькі я магу меркаваць, рацыю меў Ласкоў. Ён не пакрыўдзіў невінаватых. У яго апанентаў няма ніякіх контраргументаў, апроч аднаго: маўляў, ты прышлы, чужы, рукі прэч ад якуцкіх літаратараў!



*Іван Ласкоў з паэтам Аляксеем Міхайлавым.*

Можа, больш важкая, чым мая, думка адстаўнога палкоўніка КДБ С. Паўлава, які з-за нязгоды з былым кіраўніцтвам Рэспублікі Саха быў вымушаны пакінуць радзіму. Зусім нядаўна, у кастрычніку 1996 года, ён надрукаваў у Якуцку нататку пра Івана Ласкова. Вось вытрымка з яе: "Ласкоў — чалавек абсалютна старонні, нейтральны, таму выключна аб'ектыўны. Ён не быў уцягнуты ў брудную мышыную валтузню... Дзякуй добраму сыну беларускага народа! Твая светлая памяць заўсёды будзе з намі".

З-за свайго няўрымслівага характару, страснай прагі справядлівасці Ласкоў нажыў сабе нямала ворагаў. Але больш было ў яго шчырых, адданых сяброў. Адзін з іх — капітан-механік рачнога флоту Алесь Баркоўскі. Лёс яго склаўся так, што ўлетку ён працуе ў Якуцку, а восенню, калі канчаецца навігацыя на Лене, прыязджае да сям'і ў Мінск. У апошнія гады жыцця Ласкова Баркоўскі быў яго "паўнамоцным прадстаўніком" у беларускіх выдавецтвах і рэдакцыях, а зараз ён — тая адзіная нітачка, што звязвае нас, камісію па літаратурнай спадчыне Ласкова, з сям'ёй Івана Антонавіча.

Сёлетняй восенню Баркоўскі прывёз у Мінск значную частку архіва пісьменніка, зрабіў ксеракопіі ўсіх яго артыкулаў і публікацый пра яго ў якуцкай прэсе. Зразумела, нашай камісіі хацелася б як мага шырэй асвятліць творчую дзейнасць Ласкова, перавыдаць яго творы. Але мы разумеем, як цяжка гэта зрабіць у наш час. Таму мы ставім сваёй мэтай выдаць хаця б дзве новыя, яшчэ ненадрукаваныя кнігі — дэтэктыўна-фантастычны раман "Чорт ведае што" і гістарычнае даследаванне "Летапісная Літва. Сваяцтва і лёс". У стаўленні да апошняй кнігі існуе даволі моцнае супраціўленне з боку навукоўцаў-філолагаў. І ўсё ж я думаю, што рацыю мае Мікола Іванавіч Ермаловіч, з якім я не раз гутарыла на гэтую тэму. "Я не ва ўсім згодзен з Ласковым, — гаворыць Мікалай Іванавіч, — але гэта не мае значэння. Кніга павінна быць выдадзена! Ласкоў практычна адзін распрацоўваў ролю фіна-ўгорскага кампанента ў беларускім этнагенезе. Калі мы не будзем даваць ходу новым гіпотэзам, арыгінальным, нестандартным, нетрадыцыйным поглядам, развіццё навукі проста спыніцца".

Сярод кніг, падрыхтаваных Ласковым да выдання, — зборнік вершаў і паэм "Кніга блуканняў". У яе Іван Антонавіч уключыў і творы са сваіх старых зборнікаў, і новыя, яшчэ нідзе не надрукаваныя вершы. Частку іх мы і прапануем сёння чытачам "ЛіМа". Вершы пазначаны 1969-76 гадамі.

**Святлана КЛІМКОВІЧ,**
**старшыня камісіі па літаратурнай спадчыне І. Ласкова.**

Іван ЛАСКОЎ

## "АБЕРАГАЙ СВЯТЫЯ СЛОВЫ..."

•

*Дымок, лядок і вербалоз у скрусе...*
*Не думай я, сцюдзёная зямля,*
*Што я з табой не толькі памiруся —*
*Сардэчна пакахаю спакваля.*

*Ды мне заўжды няёмка так бывае*
*Ад нейчых пышных і бяздумных слоў,*
*Што ён — глядзі ты! —*
*ў тым ці іншым краі*
*Сабе радзіму новую знайшоў!*

*Не, я прыехаў да цябе не ў госці*
*З такой няблізкай Белае Русі,*
*І мо куток апошні на пагосце,*
*На ледзяным — хто ведае? — дасі.*

*На сэрца леглі белай ночы дзівы,*
*Люблю тваю бясконцую зару,*
*Але прабач — усё адно радзімай,*
*Хай і другой, цябе не назаву.*

*Дару табе душу сваю і слова,*
*Працуючы з відна і да відна.*
*Але не станеш мне радзімай новай:*
*Яна, як маці, ў кожнага адна.*

•

*Я адчуваю сам сябе*
*Нібы у нейкай змове.*
*Я не магу пра Беларусь*
*Пісаць на іншай мове.*

*Нібы не вершы я пляту,*
*А без гармат і танкаў*
*На мову родную вяду*
*Шарэнгі акупантаў.*

*Нібы не проста над радком*
*Апоўначы мудрую —*
*Безабаронны матчын дом*
*З хаўруснікам рабую!*

*О, мова шчодрая дзядоў,*
*Не саступі нікому*
*Ні сёл сваіх, ні гарадоў,*
*Ні зор, ні крыгалому;*

*Усё, што бачыш прад сабой —*
*Жыты, суніцы, вежы —*
*Усё твае табе адной*
*Да скону дзён належыць!*

*Аберагай жа дзень за днём,*
*Гадуй святыя словы,*
*І пойдуць дымам і агнём*
*Усе у свеце змовы!*

•

*Я старцую смак*
*да іншай мовы,*
*Як да мацнёнага віна.*
*Няхай жа мілы сок кляновы*
*Мяне напоіць да п'яна.*

*На што я толькі спадзяваўся,*
*Калі шукаў інакшых слоў?*
*Да трыццаці гадоў бадзяўся,*
*А лепшай долі не знайшоў.*

*Жывая плынь чужое мовы!*
*Я сам не ведаю, калі*
*Яе канчаткі і асновы*
*Мяне падманам апляли;*

*Ды я не зведаў з імі шчасця,*
*Не прасвятліў замерлы зрок,*
*Не прычасціўся*
*тых п р и ч а с т и й,*
*Г л а г о л о м сэрца не апёк.*

*А родны край — бо ці я першы? —*
*Мяне не крыўдзіў і не кляў*
*І пра сябе благія вершы*
*На іншай мове друкаваў.*

*Мой родны край доўгацярплівы,*
*Даруй мне кожны каласок,*
*Што я з тваёй зблажнелай нівы*
*Знёс на чужую незнарок.*

*І што рабіць — не разумею,*
*Абкраў цябе, абкраў сябе,*
*І прад табою камянею*
*З агнём пракляцця на ілбе.*

•

*Хілю няўмольна скронь да скроні,*
*Шапчу бяссэнсавае, а ты*
*У безабаронныя далоні*
*Хаваеш твар свой малады.*

*А я далоням — забабоны,*
*А я твае далоні ўбок,*
*Каб родны твар безабаронны*
*Ізноў душу маю апёк.*

*П'ю нагібом твой твар адчайны,*
*А ты, ахвярная, маўчыш:*
*Безабароннымі вачамі*
*Мне ў вочы страшныя глядзіш.*

*Нашто агледзеў я такую,*
*Нашто цябе разгледзеў я,*
*Навошта я цябе катую,*
*Безабаронная мая?*

*Не дам на ганьбу анікому,
З вады ўратую і з агню,
Адно мне рэжа па жывому —
Як ад сябе абараню?*

*Самім сабе не суддзі людзі,
Не саступіць, не адступіць.
Даруй жа мне ўсё, што будзе,
Даруй усё, чаму не быць.*

●

*Пад неабсяжным небам мая,
Ад воч чужых, ад шэптаў злых
Усё далей нас гоніць мара
На міг застацца ўдваіх.*

*Куды ідзем — не бачым самі,
Трывожым дах бяздонных вод.
Звініць і стогне пад нагамі
Перадсмяротны майскі лёд.*

*Ідзе наўпрост ракою весняй
Да чорнай плямы астраўка.
Усё гразней, усё злавесней
Нас папярэджвае рака.*

*Нібы з пакутнага палону
Бяжым, бяжым праз бель і сінь.
Сляпая сіла крыгалому
Ужо ўздымаецца з глыбінь.*

*Мы дабяжым — я веру ў гэта,
І крыгаходу грозны пас
Ад воч і слоў чужых да лета
Нібы нажом адрэжа нас.*

*Мы страх і долю перасілім,
І панясе гара вады
Да акіянскай дальняй сіні
Не нас, а нашыя сляды.*

*Бяжым, счапіўшыся рукамі,
І веру я, і верыш ты,
І паліць неба ўслед за намі
Усе зваротныя масты.*

●

*Дзіцячы дом — адзенне па стандарту,
Сто пар абутку на адзін капыл.
Адны для ўсіх дырэктарскія жарты,
Адзін для ўсіх на спортпляцоўцы пыл.*

*Адно для ўсіх сняданне і вячэра,
Адна для ўсіх шкляная шафа кніг...
Штомесячна рабы цырульнік Гера
Усіх пад грабянец адзіны стрыг!*

*Чаму ж тады стандарт
не атрымаўся
З сяброў маіх, далёкіх малышоў?
Адзін у грузчыкі, глядзіш, падаўся,
Другі, глядзіш — у злодзеі пайшоў.*

●

*Дзіўлюся сам: за пяць якуцкіх год
Такім таежнікам я стаў — паверце:
Спаць не дае Масквы машынны гуд
Ні на адным завоблачным паверсе.*

*Няўжо не я пад гэты мерны шум
Пяць год назад і зоркі сніў, і марыў,
Няўжо пад колы тых жа вось машын
Сягаў бесцырымонна з тратуараў?*

*Прад святлафорам —
не скрануць нагі,
Бездапаможна ў метро тапчуся,
А у вушах — то цішыня тайгі,
То салаўіны пошчак Беларусі.*

●

*І слупам пыл, і брэх сабак,
І бляск вінтовак.
На лесабазу, на тартак —
Семсот ватовак.*

*Да дзесяці гадоў і звыш,
Рэжым асобы. Нясі зароблены
свой крыж,
Гняці вантробы.*

*За крокам крок,
за тварам твар —
Пусты, бясхвары,
А ў вачах нібыта твань
Асенняй хмары.*

*Не дай жа, госпадзі, і мне —
Нідзе, ніколі,
Ні ў цёмным лесе пры сасне,
Ні ў чыстым полі,*

*Ні ў час гарэзлівасці злой,
Ні ў дні нястачы —
Чужой кашулі ніцяной,
Чужое клячы.*

*Не ўпусці, не дапусці
Да воўчай мроі,
Руку дурную адвядзі
Ад змрочнай зброі.*

*Асцеражы мяне ўсяляк
Душу скалечыць,
Бо ні штыкі, ні брэх сабак
Яе не лечаць...*

●

*Зашпіляюцца рамяні.
Самалёт раве пераможна.
Адсякаюцца карані.
Пачынаецца падарожжа.*

*Зорка хліпкая на крыле.
Па салоне гойсаюць цені.
Тры гадзіны ў рудой імгле
Да нябачанай век Цюмені.*

*Наўзамен мурагоў і меж
Планаванага мной Прысожжа
Ты куды мяне звалачэш,
Транссібірскае падарожжа?*

*Што знайду я ў Цюмені той,
Што пачую і што убачу,
На сібірскай зямлі глухой
Напаткаю ці не ўдачу?*

*Край сцюдзёнай глухой імжы,
Балатоў і марудлай пошты,
Ці не з дурасці я, скажы,
Спакусіўся казённым коштам?*

*...Тры гадзіны імгла, імгла,
Тры гадзіны рудога змроку,
Толькі прывідны цень крыла
За вакенцам даступны зроку.*

*І гудзе самалёт, гудзе,
І лячу я насустрач ветру,
І не ведаю, дзе я, дзе,
Над якім завіс кіламетрам.*

*І ніяк не заплюшчыць воч,
Штосьці муляе мне на сэрцы,
Чымсьці грукнула злая ноч
Па маёй па штодзённай мерцы...*

## Балада пра абедзенны перапынак

*Сем паэтаў — вясёлы зброд,
Палкіх вершаў бадзячы рынак, —
Іх прывезлі на рыбзавод
У абедзенны перапынак.*

*З аганьком павітаўшы ўсіх
Перад нізкім драўляным цэхам,
— Што ж, — звярнуўся
прафорг да іх
З бесклапотным
няшчырым смехам, —*

*Не сказаць, каб сярод жанчын
Быў лірычны радок не ў модзе,
Ды з-за розных ліхіх прычын
План не нашым гарыць заводзе,*

*І павінен прызнацца я,
Хоць не ўхваліце мой учынак:
Скарацілі мы удвая
Наш абедзенны перапынак.*

*Секанулі мы напалам,
І цяпер таго перапынку
Ледзь хапае працаўнікам,
Каб наспех праглынуць скарынку.*

*Можа, так бы нам паспытаць —
Чуў, было ўжо такое дзесьці:
Покуль будзеце выступаць,
Людзі будуць паціху есці?*

*— Эх, — сказаў яму ў адказ
Кіраўнік паэтычнай банды, —
План, браток, гарыць і ў нас,
Не абы-які — прапаганды.*

*Так што хай там свой хлеб жанкі
Не саромячыся цярэбяць.
А не ўчуюць радок які —
Перацерпім, браток, як-небудзь.*

*І зацісну ўшматзначна рот,
Бы схаваў за шчакою здраду.
Сем паэтаў, вясёлы зброд,
Пацягнуліся ў цэх адзаду,*

*І няўцям бедакам было,
Што рыхтуе ім тая змова,
Што з сябе уявляць магло
Спалучэнне яды і слова.*

*Толькі ў цесным, бы нейкі грот,
У закутку, дзе людзі елі,
Сем паэтаў, вясёлы зброд,
Непрадбачана спахмурнелі.*

*Чулі ж, чулі усё датла,
Прадчувалі штось, прадчувалі,
Небяспека ўсіх пякла,
Дык чаму ж усе прамаўчалі?*

*Ці не з той бяды, што тады
Ім не змог бы ніхто давесці,
Што пад вершы іх сапраўды
Хтось асмеліцца штосьці есці?*

*Ды насустрач не ўстаў ніхто,
Не састроіў прыязнай міны.
Можа сто, можа больш за сто
Моўчкі елі свой харч жанчыны.*

*Найважнейшым за ўсё для іх
Быў будзённы занятак гэты,
І ўсе, зразумеўшы ўміг,
Моўчкі згорбіліся паэты.*

*І пакуль кіраўнік іх зух
Мёў паветра рукой з запалам,
Моўчкі рыбны ўдыхалі дух,
І дыхання ім не хапала.*

*І паліла ўсім мазгі
Думка даўкая, хто з іх першы
Па ўзмаху тае рукі
Ахвяруе на поед вершы.*

*Ды наперад сухі, як клін,
Рукі сунуўшы ў кішэні,
Нечакана ступіў адзін,
Не чакаючы запрашэння.*

*Шмат бадзяўся сярод людзей,
Шмат ён бачыў
і шмат што зведаў,
І у гэты няшчасны дзень
Сам не снедаў і не абедаў,*

*І ступіў той крок не таму,
Што на нейкі цуд спадзяваўся:
Проста страшна было яму —
За малодшых сяброў баяўся.*

*І яшчэ ён лічыў здаўна,
Што паэзія — мужных справа,
Што, нібыта хірург, яна
На гідлівасць не мае права.*

*Ён сябе шкадаваць не стаў
І, у памяці ўзняўшы вершы,
Цвёрдым голасам распачаў
Верш пра маці —
свой верш найлепшы.*

*І глядзеў не кудысьці ў столь —
Прад сабою глядзеў і бачыў,
Як, мачаючы порстка ў соль,
Хтось з жанчын ад цыбулі плача,*

*Як, пакроіўшы селядца,
Нехта зброб са стала адкіды...
Ён спакойна глядзеў, хаця
Да канца і не змог агіды.*

*Так ва ўпор за радком радок,
Верш за вершам з агнём у сэрцы,
Покуль стомленыя ўбок
Не адсунуліся відэльцы.*

*Можа, пяць, можа,
больш мінут
Білі воплескі ў сцены цэха —
Гэта ўсё-ткі адбыўся цуд,
Папярэдняга цуда рэха.*

*Гэта стрыманыя заўжды
Шчодра дзякавалі за мукі
Ад штодзённай яды-нуды
Ўрэшце вызваленыя рукі.*

*Ну, а потым усё было
Найяснейшага ў свеце гарту,
Бы з паэтаў рукой зняло
І апаску іх, і пагарду,*

*І з запалам абняўшы ўсіх
Каля залежу нейкіх скрынак,
Не сварыўся прафорг на іх,
Што падвоілі перапынак.*

*Нат прыём закаціў мясцком,
І ў даволі прасторнай зале
Шэсць паэтаў з кіраўніком
Шумна поспех свой абмывалі.*

*Толькі сёмы — як што згубіў
Ці пад сэрцам без жалю ссала:
Стукаць стукаўся, ды не піў
І нічога не еў таксама...*

# ЗАГІНУЎ У ПЕРШЫЯ ДНІ ВАЙНЫ

Пра будні пагранічнікаў пісаў у асноўным Іван Шапавалаў (нарадзіўся 26 студзеня 1907 года ў вёсцы Бежаўка на Сумшчыне (Украіна), загінуў на фронце пад Барысавам 26 чэрвеня 1941 года). І гэта невыпадкова. Пасля заканчэння Камуністычнага універсітэта журналістыкі імя С. М. Кірава ў Мінску (1923) ён з 1925-га па 1939 год служыў у пагранічных войсках, а з 1939-га — у палітупраўленні пагранічных войск НКУС СССР. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны працаваў загадчыкам аддзела ў рэдакцыі часопіса "Пограничник" (Масква).

Літаратурную творчасць І. Шапавалаў пачаў у канцы дваццатых гадоў з вершаў, апавяданняў, нарысаў. У Мінску выйшлі яго кнігі паэзіі "Товарищи" (1932), "Дзержинцы" (1934), "Время близится" (1937), паэма-аповесць "Ян Рендя" (1932), аповесць "Большевики-границы" (1936), зборнік прозы "Ненадуманные рассказы" (1939). У 1940 г. І. Шапавалаў напісаў лібрэта оперы "Пограничники" (музыка А. Туранкова).



**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Івану КУДРАЎЦАВУ з прычыны напаткаўшага яго гора — заўчаснай смерці дачкі Ґаліны.**

**Белдзяржмузей народнай архітэктуры і побыту выказвае глыбокае спачуванне начальніку аддзела Міністэрства культуры РБ Сяргею МАСЛОЎСКАМУ з прычыны напаткаўшага гора — смерці маці.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Аляксею СЛЕСАРЭНКУ з прычыны напаткаўшага яго гора — раптоўнай смерці брата Слесарэнкі Анатоля Аляксеевіча, вядомага кінарэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Украіны, лаўрэата прэміі імя Аляксандра Даўжэнкі.**

